**Уладзімір Папковіч**

# Самы кароткі цень

*Кніга вершаў*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1988

Рэцэнзент
Яўген Крупенька
Книгу составили стихи — раздумья о нашем времени. Проникнутые печалью воспоминаний о военном детстве, они сияют свежими красками и отражают сыновнюю любовь к родной земле, к жизни.

ISBN 5-340-00059-1

* * *

За гадамі, нібы за гарамі,
Засталася нашая вясна.
Хлапчукі,
Мы ўдзельнічалі ў драме
З назваю я«ахліваю —
Вайна.

Нас пра ўзрост навала не пытала...
Мо таму мы пра жыццё і лёс
Ад маленства разважаем стала,
Што ні робім —
Робім усур'ёз.

* * *

Пішу, як дома гаварылі...
Зноў чую галасы з двароў:
Гамоняць Ганькі і Марылі,
На выган гонячы кароў.

Пад пошчак пугі адмысловы
Жартуе весела пастух.
Запомніліся больш не словы,
А той зямны здаровы дух,

Які даваў жыццё і крылле
Гамонцы простай —
На вякі...
Пішу, як дома гаварылі
Радня,
Суседзі,
Землякі.

**Дзень**

Яшчэ ўвесь дзень, як век, перада мной,
Усё наперадзе, няма куды спяшацца.
Чупрына не набіта сівізной,
Бухматая — няма патрэбы ў шапцы.

Апалены нядаўняю вайной,
Вучуся я спяваць і пацяшацца,
Увесь мой дзень, асвечаны вясной,
Наперадзе — няма куды спяшацца.

Я не заўважыў, як ён праляцеў.
Да вечара гадзіны засталіся.
Даўжэюць цені ад дамоў і дрэў.

А ці дамогся я, чаго хацеў?
Гарачыя памкненні ці збыліся?
О, як ты, дзень мой, хутка пашарэў!

**Два санеты**

I
Гучыць банальна: а гады імчацца...
Банальна: сівізна у галаве...
А гэтым двум ніяк не даспрачацца
Аб тым, хто так, а хто не так жыве.

Адзін: «Труба чароўная заве...»
Другі: «Пара з нязбыўным разлучацца».
Адзін: «Хачу яшчэ з нуля пачацца».
Другі: «Канец. Усё ў нябыт плыве».

«Хачу зары і ранішняй расы...»
«Хачу цяпла, утульнага пакоя...»
Вось так зрасліся, нібы спарышы,

Жаданняў супрацьлеглых галасы,
Ні днём, ні ноччу не даюць спакою —
Яны спрачаюцца ў маёй душы.

II
Няўжо да смерці буду вырашаць,
Куды ісці — налева ці направа,
І раздарожжа будзе спакушаць:
Сюды карысна, а туды — цікава?

Не ўмею голас сэрца заглушаць,
Які хрыпіць няўклюдна і карава.
Кагосьці судзіць... А ці мае права?
Хай перш навучыцца перапрашаць.

Налева — слава, справа — адмаўленне,
Наперадзе — загадкі і сакрэты,
А за гарой заве на бой трубач.

Іду я праз сусветны тлум і плач,
Шукаю праўду — да вялікай мэты
Мяне вядзе мой павадыр — сумленне.

**Дабро і зло**

На свеце, кажуць, так заўжды было:
Нянавісць тайна павуціну ткала,
Але дабро перамагала зло,
І праўда перамогу святкавала.

Змрок адступаў, прыходзіла святло,
З-за чорнай хмары сонца выплывала...
Калі дзіця на дапамогу звала,
На пакліч чалавецтва ўсё ішло.

О, як паверыць я душой хачу,
Што спраўдзяцца найлепшыя надзеі
І ў свеце пераможа дабрыня...

Пакуль што ў промнях сонечнага дня
Нахабна раскашуюць ліхадзеі...

Няўжо я баязліва прамаўчу?

* * *

Партызан вячэру пахваліў,
Дзякаваў, як ад стала ўставаў.
Да грудзей дзяўчыну прытуліў
І, сумеўшыся, нацалаваў.

Хуценька сабраўшы са стала,
За парог пайшла за ім яна
І каня са стайні прывяла.
«Я не застануся тут адна».

Вочы загарэліся агнём.
Моўчкі ён за тытунём палез.
Крочылі ўдваіх перад канём,
Нібы ў храм, у партызанскі лес.

* * *

Умытая крывёю і слязьмі,
Зямля, відаць, не ўсё адбедавала.
Драпежнікаў, што лічацца людзьмі,
На ёй і сёння ёсць яшчэ нямала.

Яны пра мір гучней за ўсіх крычаць,
Хоць іх намеры бачны ўвачавідкі:
Гатовы бойню заўтра распачаць,
Каб ведалі, што прынясе прыбыткі...

* * *

Я сэрцам рады: час цяпер не той...
Хвалююся, чытаючы газету:
Блуд фанфаронства, балбатні пустой
Сцякае з брудам незваротна ў Лету.

І на Душы лягчэе у мяпе,
Калі на шумным сходзе на заводзе
Рабочы хлопец праўду разане
Галавацяпу —
Гучна,
Пры народзе.

І скажа ён: «Я не хацеў чарніць
Вялікую заслужаную славу...
Ды колькі можна соладка маніць,
Хлеб з маслам есці,
Не зрабіўшы справы?»

**Усё адтуль**

Мой родны кут...
*Я. Колас*

Ёсць свой куточак і ў мяне,
Мой лёс — трагічны і вясёлы.
Там я па снежнай цаліне
У школу бегаў і са школы.

Цвілі ля хаты касачы,
Над галавой плылі аблокі.
Я там, карову пасучы,
Чытаў Ясеніна і Блока.

Я там — галоднае дзіця —
Збіраў пазёмкі і чарніцы.
Быў кінуты я ў вір жыцця,
Каб з працаю цяжкой зрадніцца.

Я знаю смак сірочых слёз.
Стаю ля мамінай магілкі.
Мой родны кут — мой горкі лёс,
Адтуль — здабыткі і памылкі.

**Успамін**

Не патрапляю ніяк у нагу,
На бацьку я ўверх пазіраю.
І заспяшаюся, і падбягу,
І пот рукавом выціраю.

Бацька павернецца: «Дзе ты там, дзе?
Не адставай жа, сынку».
І зноў без прыпынку наперад ідзе,
Не робячы адпачынку.

Я замарыўся, прысесці хачу,
Але ні аб чым не пытаю.
Крочу — не плачу і не крычу,
Хоць слёзы я ўпотай глытаю.

* * *

Пасля вайны на першым годзе,
Як толькі снег сышоў руды,
Шукаў на леташнім гародзе
Хлапчук гнілушкі для яды.

Змарнелы ад пустой заціркі,
Ён, з тварам колеру зямлі,
Дрыжаў — былі ў апратцы дзіркі,
І лапці мокрыя былі.

Ніводнай бульбіны, на гора,
Дамоў, відаць, не прынясе,
Бо ўчора ўжо і пазаўчора
Старанна пазбіраў усе.

Заплакаў моўчкі і паволі
Падаўся прэч, худы, як цень...
Дажыў хлапчук да лепшай долі,
Ды не забыў той горкі дзень.

* * *

Маці ўранку ў кубак налівала
Цёплага з даёнкі малака.
Адламаўшы, у руку давала
Чорнага, з гаркотай, праснака.

«Еш, каб вырас дужы і здаровы,
Каб у працы мне дапамагаў...»
І рыкалі сонныя каровы,
І заспаны пастушок міргаў.

Гнаў кароў, проставалосы, босы...
Толькі б сонца ўстала, прыпякло!
І кусалі, нібы восы, росы,
І куды схавацца не было.

Прыгравала сонейка паволі.
Статак клаўся, жваку жваў, ляны.
Дзесяць год хлапцу было — не болей,
З іх чатыры —
Жудаснай вайны.

* * *

Я спаў у начлезе — руку пад шчаку,
Касцёр дагараў і дыміўся.
А зоркі міргалі маладзіку:
Глядзі, як малы прытаміўся.

Прыпалі падлеткі да роднай зямлі,
Шумець, гаманіць перасталі,
Зваліліся ўпокат, насамі саплі,
І кашлялі, і мармыталі.

Мы толькі што выйшлі з жахлівай вайны.
Ледзь душы ліпелі
                                        У Целе,
І праваліўшыся нават у сны,
Мы есці пакутна хацелі.

**Праснак**

Жанчыны зранку печы спраўна паляць,
Над вёскай прыцярушанай — дымы.
Мяне сягоння зноў вяртае памяць
У раніцу гаротнай той зімы.

Шугае ў хату з печы жар пякельны...
Сачу за мамай, ці падасць мне знак,
Калі паложыць на ручнік
з патэльні
Такі жаданы — як жыццё! — праснак.

З чаго быў спечаны — мне і цяпер загадка,
Бо ў хаце ж не было ні бульбы, ні мукі.
Казала мама мне: «Садзіся еш, дзіцятка».
Я асцярожна браў — гарачы — ў дзве рукі.

З усіх ласункаў ён быў смачны самы.
Як грэла жыццядайнае цяпло!
Ну, а ці ведаў я тады, што ў мамы
І макавінкі ў роце не было?

* * *

Маленства сцежак не забыць ніяк,
Мне мамін спеў і сёння сон люляе.
Вясковае акенца, як маяк,
Мне праз гады дарогу асвятляе.

Я з хаты бег на волю напрасткі,
На развітанне вёсцы — ані слова.
Ляжаў адкрыта свет на ўсе бакі,
І далячынь свяцілася ружова.

Калі мой лёс гарчыў, нібы палын,
І я не мог пераадолець стому,
Тады ўспамінаў
журавуліны клін
Душу на лекі зноў вяртаў дадому.

* * *

Я не па кніжках жыццё вывучаў —
З вайны уцалелы падлетак.
Нікому пытаннямі не дакучаў:
Чаму нешта так, а не гэтак?

У полі, на лузе, на свежай раллі
Мне адкрываліся веды
Аб нашай зямлі,
Дзе навалы прайшлі,
Прыносячы слёзы і беды.

Снарадаў вайна
накідала знарок
На гоні...
А мы іх аралі...
Гісторыі новай крывавы урок
Мы доўга яшчэ паўтаралі.

Мы не баяліся ўласнай крыві,
Ад болю не плакаў ніводзін.
Маці вучыла: «Сумленна жыві!»
Было гэта ўрокам паводзін.

У вёсцы пад вечар гармонік спяваў
О, песні маёй маладосці!
Мне змалку народ мой урокі даваў
Паэтыкі і прыгажосці...

* * *

Інтэлігенты ў першым пакаленні,
Мае равеснікі, мае сябры!
О, у якім шчаслівым захапленні
Пасля вайны вы бралі буквары!
Цудоўны час быў, што ні гавары!

О, як мігцела радасна газоўка!
Як завіруха ў коміне гула!
З агрызкам даваеннага алоўка
Ля хісткага вясковага стала
Вы шлях свой пачыналі да святла.

Магчыма, вы забаваў недабралі...
А хто б у вёсцы справіўся без вас.
Калі б вы не касілі, не аралі,
Каб не паднялі двор свой і калгас
У гэны неўпарадкаваны час?

Кароткі шлях з дзяцінства ў пасталенне
Вы праз будоўлю, цаліну прайшлі,
У космасе найпершымі былі!
Трымайце ж моцна ад зямлі рулі,
Інтэлігенты ў першым пакаленні!

**Адкрытыя ўрокі**

Па вёсках хапалі дзяцей ваўкі —
Казалі, што гэта з вайны аўчаркі.
Нам не забудзецца час той цяжкі,
Як уздымаліся з тла гаспадаркі.

У школу хадзілі да цёплай пары,
Голад вясною даймаў нас да болю.
Цягнулі з гарышча мы плуг стары,
Класы тады адчыняліся ў полі.

«Бярыся за працу, калі ядок!» —
Патрабавалі абставіны строга.
На аркушы нівы клаўся радок,
Не з-пад пяра — з-пад нарога старога.

Пеў-заліваўся званочак-жаўрук,
На перапынак званіў нам з-над неба.
Аралі мы, плуг не пускаючы з рук,
Пакаштаваць так хацелася
Хлеба.

* * *

Я картовы касцюм адпрасую,
Банку з ваксай засохлай знайду,
Чаравікі як след наваксую,
Па чупрыне рукой правяду

І пайду са двара за вароты,
Дзе гамоняць, да грамады.
Каля Еўчынай хаты ў суботу
Шумна-весела, як заўжды.

Завадовы курэц Міфодзя
Тытунём пачастуе мяне.
Ён дзяўчыну пры ўсім народзе
Раптам схопіць, яе ўшчыкне.

І наробіць дзяўчына піску,
Вырываючыся: «Пусці!»
Будзе месяц усмешлівы нізка
Па-над вёскай старою плысці.

Я прабуду ўвесь вечар маўклівы,
Бы язык адкусіла цяля.
Мне здаецца, што гэткі шчаслівы
Больш ніколі не быў я пасля.

* * *

Ёсць па свеце маленькая вёска
Між лугоў і блакітных азёр.
Там жыве мой равеснік і цёзка,
Першакласны калгасны шафёр.

Сінявокі, ціхмяны, русявы,
Даланя — нібы скіба раллі.
Ані грошай вялікіх, ні славы,
Толькі вёрсты — шляхі праз палі.

Толькі сонца міргае на ўсходзе,
Толькі бэз каля хаты цвіце,
Толькі жонка пакліча: «Валодзя!
Мыйся...
Бульба кіпіць на пліце».

Дзеці ў горадзе...
Хто іх згукае?
Ён здымае картуз з галавы
І жартуе: «Вось штука якая:
Быў русявы,
Зрабіўся — сівы».

**Аднакласнік**

Ён — помніце? — сядзеў каля дзвярэй.
За веды ён не вельмі што змагаўся.
Настаўніцы ўшчувалі: «Не дурэй!»
Ён не дурэў. Ён толькі пасміхаўся.

І ўсмешачка заўсёдная яго
Вучыцелек выводзіла з цярпення,
Даводзіла, бывала, да кіпення:
«Чаго ён пасміхаецца, чаго?»

Ён ад вайны застаўся сіратой
І жыў у дзядзькі з цёткаю — не родны.
Быў недагледжаны і паўгалодны.

І ад увагі, добрай і крутой,
Ён, як умеў, абараняўся той
Усмешачкай маўкліваю заўсёднай.

## З дзяцінства

Нам толькі б зімку перажыць,
Павесялеем потым,
Як толькі снег з палёў збяжыць
І выгляне з-пад плота
На свет зялёная трава,
Заззяе між паркання
Сцяблок гарэзны — крапіва —
Жыццё, выратаванне.,.

**Пяцідзесятыя гады**

Пяцідзесятыя гады...
Сярэдзіна стагоддзя.
Няма вайны.
Няма бяды.
Я незваротна малады.
Хлапец.
Студэнт.
Валодзя.

Шкарпэткі — дзіркі на пяце.
Абутак просіць кашы.
І хоць бурчыць у жываце,
Ды самаўпэўненасць расце:
Дзяўчаты будуць нашы.

Сталіца.
Будняў калаўрот.
Вялікая запарка.
Танцуе вечарам народ
На плошчах вальсы і факстрот.
Не стала культам чарка.

Не разумеў зусім тады
Я ў тым вялікім гудзе,
Што ў кроў увойдуць назаўжды
Пяцідзесятыя гады,
Што больш такіх не будзе.

**Баракі**

На ўскраіне бураць баракі,
Нават назва пужае цяпер.
Як саромеюцца небаракі
За аголены свой інтэр'ер!

Абляпілі пакоі, як соты,
Калідор магістральны, скразны.
Беспрытульны быў год сорак шосты
І галодны...
Але без вайны.

Пад гармонік,
Пад шум керагазаў
Калідор і сварыў і мірыў.
Навічка выпрабоўваў адразу
На гнуццё,
На разлом,
На разрыў.

Тут жаніліся і паміралі,
Керагазы мянялі на газ.
А баракі ўсё не разбуралі.
Вось нарэшце прыйшоў іхні час.

Хтось цагліны з руін выбірае,
Мусіць, дачнікі-гаспадары.
А бабуля слязу выцірае
І жагнае падмурак стары.

**Былы сябра**

Ты закаснеў, ты запанеў,
Дайшоў, сумеў, паспеў.
А дзе высакародны гнеў,
Што у грудзях кіпеў?

Быў непадступны для маны,
Што думаў — не хаваў.
Купляў айчынныя штаны,
Не з базы даставаў.

Не ведаў, дзе тыя хады,
Дзе сувязі, дзе блат.
Быў малады,
І мне тады
Бліжэйшы быў, чым брат.

Але разбегліся шляхі,
Жыццё нас развяло.
Табе залезці «у вярхі»
Спакусліва было.

Табе заможнасці маяк
Па-змоўніцку міргнуў.
Не ведаю, калі і як
Ты праўду абмінуў.

Накінуў маску-паранджу...
Зноў сцежка нас звяла.
Я моўчкі на цябе гляджу,
Стаю каля стала.

Сядзіш — замшэлы бюракрат,
Рукі не падаеш.
Ты мне бліжэйшы быў, чым брат.
Цяпер не пазнаеш.

Хаваеш сонную тугу,
Перабіраеш стос.
«Прашу прабачыць — чым магу?..»

Дзяўбе паветра нос.

Я уцякаю да дзвярэй —
Тут затхласцю смярдзіць.
Скарэй адсюль, на двор скарэй!
Тут труп жывы сядзіць.

**Праз гады**

Нават дзіўна, як усё прайшло,
Праляцела, знікла за спіной.
...Мама, мама, запалі святло,
Пасядзі, пагавары са мной.

Раскажы, ці палягчэла тут,
Ці старанны новы старшыня...
Хутка я закончу інстытут,
Будзе ганарыцца ўся радня.

Скажуць: «То ж Антосішын такі!
Па-ангельску ўмее гаварыць...»
І на двор маўклівыя дзядзькі
Прыйдуць пасядзець і пакурыць.

Буду ездзіць, мама, за мяжу —
У Парыж, у Лондан — хоць куды,..
...Ах, каму я сёння раскажу,
Як баліць мне сэрца праз гады?..

**Браты**

Усё такое ж: поле і кусты,
Магутны дуб на сонечнай паляне,
Ля шляху абеліск, дзе спяць браты,
Салдаты — беларусы і смаляне.

Усё такое ж: шчасце і бяда.
Нам на бяду завельмі шанцавала.
Нас не мінала ні адна арда,
Не шанавала ні адна навала.

Усё такое ж...
Спраўдзіліся сны
Ягорава і гордага Міная.
Хаджу ў Смаленску ля старой сцяны,
Дзе ўсё мне Беларусь напамінае.

Ля Вечнага агню стаю ў журбе.
Мне сэрца спапяляюць успаміны.
У мірнай працы, як і ў барацьбе,
Мы назаўсёды
У сям'і адзінай.

**Курт Мюлер**

Курт Мюлер, немец з ГДР,
Букет чырвоных руж трымае.
«Я, ойрэ штат гэфэльт мір зэр»[1]
І ўгору кветкі падымае.

Ён па адной іх раздае,
Дзяўчатам і жанчынам дорыць
І словы нейкія свае
Зноў па-нямецку ім гаворыць.

Ён у агульнай грамадзе,
Падцягнуты, святочна-строгі,
Па нашай Ленінскай ідзе
Да абеліска Перамогі.

Ён полымныя гваздзікі
Кладзе к агню, што ўвысь імкнецца.
Сцякаюць слёзы са шчакі
У Курта Мюлера,
У немца.

---

[1] «Так, ваш горад мне вельмі падабаецца» (ням.).

* * *

У вёску едуць немцы!
Навіна,
Прамоўленая старшынёй услых,
Па вёсцы паляцела,
І яна
Узрушыла і сталых, і малых.

Бухгалтар — эрудыт і паліглот —
Закончыў лозунг, кліча старшыню:
«Вількомэн!»[1]
І здзіўляецца народ,
Бо гэта слова чуе ўпершыню.

І нават тых, што ўсю вайну прайшлі,
Бухгалтар гэным слоўцам перамог,
Бо ў іхняй памяці адны жылі
«Ніхт шысэн», «Хальт!» «Цурук!» ды «Хэндэ хох!»[2]

«Вількомэн!»
І пачуўшы пераклад,
Са згодай заўсміхаліся дзяды.
Што ж, калі ласка… Хто гасцям не рад?
Усё пакажам — фермы і сады.

У вёску едуць немцы!
Ля двароў
Аўтобус коціць,
Толькі пыл з-пад кол,
І жартаўнік Кузьма крычыць:
«Здароў!»,—
Зламаўшы спланаваны пратакол.

---

[1] «Калі ласка!» (ням.)
[2] «Не страляць», «Стой!», «Назад!», «Рукі ўгору!» (ням.)

**У дровы**
*Апавяданне*

I
Сюжэт не такі ўжо і новы,
I не сучасны ані:
Мы ехалі з братам у дровы
На дахадзягу-кані.

Год на дварэ — сорак шосты,
Разводдзе, канец зімы.
Аблезлы быў конь ад каросты,
Схуднелы, аслаблы, храмы.

Пасляваенны калека,
Пакінуты век дажываць,
Дапамагаў нам, няўмекам,
Араць ды баранаваць.

Трымаў гаспадарку нашу
На змуленых костках сваіх.
Мы з братам яго на пашу
Вадзілі ў начлег — удваіх.

А раніцай упрагалі
Яго ці ў калёсы, ці ў плуг.
Бывала, за вобраць цягалі,
Каб з месца скрануць — удвух.

Свой лёс кленучы, закляты,
Білі каня па спіне.
Пятнаццаць гадоў было брату
I адзінаццаць мне.

Цяпер жа, відаць, застаяўся
Каняка ў хляве за зіму.
Ён шчэрыўся, нібы смяяўся —
Было нешта смешна яму.

I, нібы дзядок на бяседзе,
Схмялела хістаўся ў бакі.

А брат мой крычаў суседзям:
«Глядзіце, стаеннік які!»

Па шэрані, без дарогі,
Па сакавіцкім лядку
Павёз нас канёк храманогі
Па ельніку, па сасняку,

Праз сцішаны бор густабровы,
Па ранішняй цішыні...
Мы ехалі з братам у дровы
На дахадзяку-кані.

II
«Шырх-шырх... шырх-шырх,— піла пяе,—
Шырх-шырх...»
З усяе сілы
Цягну я на сябе яе,
Мне белы свет нямілы.

Сцінаю зубы і маўчу,
Рука як неяшвая.
Мне цёмна робіцца ўваччу.
«Шырх-шырх»,—
Піла спявае.

«Шырх-шырх... шырх-шырх...»
Туды-сюды...
Заплакаць — не да твару.
А лапці, поўныя вады,
Ужо пускаюць пару.

Пад світкай мокрая спіна,
І пот па ёй сцякае,
І адчуваецца вясна,
І сонца прыпякае.

«Шырх-шырх...»
І абарваўся спеў —
Пайшла сасна дадолу.
«Ну, як ты, братка, не самлеў?» —

Смяецца брат вясёлы.

«Пакуль што, во, перакусі»,—
Ламае хлеба лусту.
«З'ясі і болей не прасі,
Не маем болей — пуста».

Сядзелі побач на камлі,
Што спілаваць сумелі,
Хлеб, найсмачнейшы на зямлі,
Сірочы хлеб свой елі.

Смала зацягвала пянёк
Наростам мігатлівым.
Быць добрым абяцаў дзянёк,
Усё жыццё — шчаслівым.

III
Сорак гадоў з той пары праляцела,
Сорак гадоў — з таго самага дня.
Памяць!
Навошта ты зноў захацела
Мне нагадаць пра худога каня?

Навошта душу апякаеш трывожна?
Боль ёй навошта вяртаеш стары?
Глянь! Нашай вёсцы жывецца заможна —
Машыны, камбайны ды трактары...

Усё яны могуць, усё яны ўмеюць —
Такая для вёскі настала пара —
Жнуць і малоцяць,
Сеюць і веюць,
І дровы на зімку вязуць да двара.

Ды памяць вяртаецца ў дзень той вясновы,
У сакавіцкае тое святло...
На сані злажылі мы скарб той сасновы
І рушылі ціха дамоў, у сяло.

А сонца як след,

з усёй сілы прыгрэла,
І адступіў састарэлы мароз.
І цела у коніка ўміг узапрэла,
Пакуль на дарогу выцягваў воз.

А мы падпіхалі яму ў падмогу,
Хоць вочы сляпілі і слёзы і пот.
Ды распусціла разводдзе дарогу,
І конь праваліўся у снег па жывот.

І больш не зважаў ён на лаянку нашу,
На пугу балючую ўжо не зважаў.
Упаў на калені ў размяклую кашу,
Глянуў на сонца і заіржаў...

Так і памёр на вясновай дарозе...
Дарэмна мы ў спешцы пасеклі гужы.
Сасновыя дровы ляжалі на возе,
А конік дайшоў да апошняй мяжы...

Крыху пастаяўшы, аглоблі супоняй
Мы моцна звязалі, як толькі маглі,
І ўпрэгліся самі мы ў сані, як коні,
Напружылі жылы,
Скранулі,
Пайшлі...

* * *

Канешне, не ўсяго хапае,
Стаім, бывае, і ў чарзе,
Бывае, што і злосць сляпая
Змяёй у сэрца запаўзе.

Але разважыўшы як трэба
Пагодзішся, напэўна, ты,
Што маем хлеб мы і да хлеба,
Што ў свята келіх не пусты,

Што дзеці па апошняй модзе
Апранутыя, як паны.
Гавораць недарма ў народзе:
«Каб толькі не было вайны...»

* * *

У гадзіну познюю, калі
Вуліца прыціхне і засне,
Мне здаецца: нехта на зямлі
Кліча не даклічацца мяне.

Падбягу да цёмнага акна,
Сэрца забаліць, хоць сам крычы,
Цішыня напята, як струна,
Анікога пасярод начы.

Спяць краіны і мацерыкі,
Навакол спакой і цішыня...
Толькі гэта цішыня — хлусня!
Чуеце? Галосяць мацяркі.

* * *

Яны навіны моўчкі сустракаюць —
Не рады,
Не злуюцца,
Не крычаць.
Здаецца, быццам нечага чакаюць,
Салідна і загадкава маўчаць.

Як добра —
Быць ні спераду, ні ззаду.
Як добра —
Намагацца пакрысе.
Пакуль што мэта —
Не згубіць пасаду.
А з часам, пэўна, неяк пранясе.

Быў па душы парадак шматгадовы:
Гартай паперкі і варон лічы.
Як сон салодкі —
Да перабудовы...
Куды б часова знікнуць,
Уцячы?

* * *

Як лёгка ставіць звышзадачы!
Як цяжка простыя рашаць!
Калі сябе не завышаць,
Лягчэй перажываць няўдачы...

Бяру задачу па сабе,
Упэўнены — рашыць па сіле.
Стараюся, як на касьбе,
Каб пяткі мне не падкасілі.

**Жыццё**

Жыццё растваралася ў шуме і ў галасе,
Яно зіхацела, трымцела, гуло.
Відовішчам дзіўным яно мне здавалася,
Сачыць за якім так цікава было.

Там людзі смяяліся, пелі, злаваліся
І слёзы лілі, на гулянкі ішлі.
А збоку здавалася, што забаўляліся,
Што прытвараліся, а не жылі.

Ды раптам мяне падхапіла няўмольная
Магутная плынь, як паводка вясной.
Кідала, гайдала цячэнне раздольнае,
Здавалася, што забаўлялася мной.

Мне дух захапіла ад нечаканасці.
Я лётаў над хвалямі, падаў на дно.
Глядзеў маладзёнак з ружовай туманнасці
І весела думаў: «Вось гэта кіно!»

* * *

Чым старэй, тым бліжэй да зямлі...
Што ты зробіш... жывое — смяротна.
Ну, а як мы гады пражылі,
Што пайшлі назаўжды — незваротна?

Чым жыццё частавала?
Яно
Нам сюрпрызаў не шкадавала:
Чорны хлеб нас хмяліў, а віно
Гаркатою слязы аддавала.

Над жыццём разважаю сваім...
І папраўдзе калі разабрацца,
То галоўнай падзеяй у ім
З дня і ў дзень была
Праца і праца.

* * *

Ручай былых падзей мялее.
Ужо спускаемся з гары.
Ужо спраўляюць юбілеі
Мае паплечнікі-сябры.

Для голай зруйнаванай вёскі
Хлапечы год быў у цане.
З-за школьнай парты перарosткі
Пайшлі рабіць — і за мяне.

Пазыкі матчыны, падаткі
Яны аплочвалі тады.
Няўзнак разменьвалі дзесяткі —
Рублі сплывалі і гады.

Шуміць застолле залатое,
Прайшло паўвека, як паўдня.
Імкнецца сэрца маладое,
Дзе далячынь і вышыня,

**Самы кароткі цень**

Статак прыгналі на дзень,
Морыць паўдзённая спёка.
Самы кароткі цень —
Змерыць хапае два крокі.

Ціха плыве праз двор
Воблачка сырадою...
Глянь — за ваколіцай бор
Расцёкся плямай рудою.

Чуйная цішыня,
Час авадня і спякоты.
Сонца звярнула з паўдня...
А колькі яшчэ работы!

**Працаўнікі зямлі**

Хвала таму, хто ўмее суадносіць
Сябе са светам, з хвіляю — вякі.
Хвала таму, хто прывілей не просіць
За тое, што ён нейкі не такі.

Пайду на фермы, ў поле, на такі,
Пайду да тых, хто сее, жне і косіць,
Каму штодня хапае спраў задосыць
Каля зямлі,
Да тых, хто — землякі.

Мне даспадобы грубасць іх і жарты.
Тут слова справы не апераджае.
Тут годнасць цэніцца не на рублі.

Тут кожны працай рупнай пацвярджае,
Хто ён такі, чаго папраўдзе варты.
Хвала вам, людзі, верныя зямлі!

* * *

Прайду пехатой, як калісьці,
Па нашай лясной старане.
Прашэпча апалае лісце
Навіны пушчанскія мне.

Праз бор навядуць мяне сцежкі,
Дзе тоўпяцца масля́кі,
Дзе зырка гараць сыраежкі,
Дзе грэюцца баравікі.

Расшыфраваўшы марзянку,
Што дзяцел перадае,
Перасяку палянку
І на ўскрайку яе

Ўкленчу ля звонкай крыніцы —
Гаючай вады паспытаць.
Зямлі пакланіўшыся ніца,
Буду падзяку шаптаць.

**Вёска Дварэц**

Хто б ты ні быў —
Прасцяк ці мудрэц,
Прыпомні: а дзе вытокі?
Ёсць на Вілейшчыне вёска Дварэц,
Ранак мой яснавокі.

Там нарадзіліся і раслі
Мае спадзяванні і мары.
На сонца дзіцячае там наплылі
Першыя чорныя хмары.

Там на малога наводзілі жах
Немца картавыя словы.
Там рэха, як рэхву, каціў па барах
Гром навальнічны вясновы.

Там першы настаўнік мне прыпадняў
Покрыва з таямніцы,
Там я на золку кароў выганяў
На луг да журлівай крыніцы.

Мама адтуль выпраўляла мяне
Ў людзі, у свет, да прасторы.
Вёска Дварэц...
Гэта ў той старане,
Дзе найвышэйшыя зоры.

**Аднавяскоўец**

Маўклівы,
Сарамлівы, як дзяўчына,
Змарнелы ад сірочай злыбяды,
Ён вырас у дарослага мужчыну
І дабраком застаўся назаўжды.

Не кінуў маці...
З ёй у роднай хаце
Жыў між сваіх —
Суседзяў і радні.
Трымаліся на сімвалічнай плаце,
Што атрымоўвалі на працадні.

Служыў у арміі —
Прыйшоў шафёрам.
З'явіліся капейкі і рублі.
З настаўніцаю ажаніўся скора,
З ёй дзетак і дастатак нажылі.

Пад пяцьдзесят — мужчына ў самай сіле.
Ці робіць, ці гуляе — ад душы.
І гарадскія, што калісь фарсілі,
Здымаюць перад ім капелюшы.

* * *

Вясковы ранак
Студняю рыпіць,
Вітаецца нягучнаю гамонкай.
А што з Агатай?
Гэтак позна спіць?
Дзвярмі не бразгае,
Не звініць даёнкай.

Паціху днее.
Змрок бяжыць з двара.
Гарланіць певень —
Будзень сустракае.
Карову ў поле выганяць пара.
Нядоена — нервуецца, рыкае.

Вось-вось і сонца выпаўзе з-за дрэў
І засмяецца.
Новы дзень пачнецца.
Суседкі адчыняюць хату, хлеў.
Агата спіць.
Агата не прачнецца,

* * *

Я сам сабе не падабаюся,
Калі — прымака гарадскі —
Бывае, часам забываюся,
Адкуль я родам, хто такі.

Калі з бабуляю вясковаю
Ля хаты ў летнюю пару
Ненатуральнай нейкай моваю,
Як з іншаземкай гавару.

Калі з паблажлівай усмешкаю
З вядром пазёмак ці чарніц
Бягу — хутчэй! — знаёмай сцежкаю
Ад вёскі зноў да камяніц.

* * *

Сястра мне піша:
«Прыязджай, Валодзя!
Такія дзіўныя стаяць у нас дзянькі.
Ад вішань чырвана,
А на гародзе
Збіраць не паспяваю агуркі.

Багата ў лесе сёлета маліны,
І на чарніцы шчодры ураджай.
Забыўся ты пра родныя мясціны.
Нядобра гэта, братка,
Прыязджай…»

Прасмажыла наскрозь асфальтавая спёка.
Я пра пісьмо забыцца не магу.
Бацькоўскі двор заве мяне здалёку.
На кліч ягоны
Подбегам бягу.

* * *

Яшчэ раз пытаюся:
«Дзе ён? А дзе?
Якою зарос ён травою,
Той час,
Хоць у голадзе, хоць у бядзе,
Ды з мамай, яшчэ з жывою?»

Бачу выразна:
Бягу нацянькі
Праз поле, праз росныя межы,
Дзе мама жне жыта,
Дзе каласкі
Хлеб абяцаюць нам свежы.

Гады, як паводка, прайшлі, праплылі,
Глянь: новыя міма імчацца.
Мама! — крычу праз часы і палі
І не магу дакрычацца.

* * *

Сядай, сястрыца, пагаворым,
Пакуль датлеюць вугалі,
Пра нашу долю —
З болем, з горам —
З усім, што мы перажылі.

Пакуль датлеюць галавешкі,
Прыпомнім блізкіх нам людзей
І пашкадуем: нашы сцежкі
Сыходзяцца усё радзей.

Няхай у памяці іскрыцца
Агонь
І сэрца нам пячэ...
А ты расказвай, сястрыца!
Яшчэ расказвай,
Яшчэ...

* * *

Там, за лясамі — поле.
Там, за лясамі — ніва.
Там, у зялёным прыполе,
Вёсачка — дзіўнае дзіва.

Там, за бярозавым гаем,
Нібы за возам бухматым,
Шыбамі заміргае
Родная маміна хата.

Яблыня ля паркана
Ніводным лістком не варушыць,
Ды вочы зусім нечакана
Колкае штось зацярушыць.

**Цёця Стэпка**

Цёця Стэпка запрашае сесці
(Цёця Стэпка — маміна сястра).
«Што ж я вам не прапаную есці,
Пасадзіла пасярод двара...»

Цёця Стэпка прабачэння просіць
Сціплаю усмешкай — ад душы.
Цёця Стэпка яблыкі прыносіць
У старым ракітавым кашы.

Яблынька за плотам наліўная...
«Я ж цяпер, як дзічка, між людзьмі..
Цёця маму мне напамінае
Позіркам, усмешкаю, слязьмі...

**Вёска — мая калыска**

I
Не стаміўся… спіна ж узмакрэла,
Як дадому ішоў нацянькі.
Вёска моўчкі мяне сустрэла.
Анікога. Вы дзе, землякі?

На падворках нязвыкла ціха,
І гняце цішыня, як дакор.
Не пазнала мяне Кастусіха,
Як праходзіў праз іхні двор.

Не пачула майго прывітання,
Слепа глянула — праз мяне.
Колькі ж год ёй?
На гэта пытанне
Адказала б сам ці не?

Палічыць Кастусіха не можа
Ні гадоў, ні пакутаў сваіх.
Толькі ў памяці — Міша й Сярожа,
Як жывыя стаяць — удваіх.

Дзве крывіначкі, два сыночкі —
Іх забрала навекі вайна.
Хто палічыць бяссонныя ночкі,
Што праплакала горка яна?

Я праходжу пад навіссю вішань,
І віхор замятае сляды.
Я праходжу праз двор Кастусішын,
Праз балючую памяць бяды.

II
Заснула вёска… Позняя пара.
Маладзічок у шыбіну глядзіцца…
На ўскраек ложка да мяне садзіцца
Пагаманіць аб тым аб сім
Сястра.

Стары альбом мне паглядзець нясе
І першую старонку адкрывае.
Глядзіць мне ў вочы мама, як жывая,
Ва ўсёй сваёй зажуранай красе.

Па гэтым твары можна б узнавіць
Мінулае — пакутнае, цяжкое,
Бяссоннае, мазольнае — такое,
Якое маладым і не ўявіць.

Глядзіць, як хоча нам дапамагчы,
Палегчыць нашы справы і турботы.
Бягуць у Лелі слёзы...
«Што ты, што ты...
Не плач, сястрыца, патрывай, маўчы..

А і ў самога ў гарляку пяршыць.
О, колькі, мама, ты ўсяго спазнала!
Усе даўгі жыццё з цябе спагнала.
Баліць душа, як станеш варушыць.

А побач картка: ў шэрым шынялі
Баец, салдат... прыгожая дзяўчына
Глядзіць героем... Гэта ж наша Ніна,
З тых, хто агнём апалены былі.

Мы выраслі на Ніных руках,
А на вайне яны трымалі зброю.
...Каля лучыны зімняю парою
Выводзіў я: «...а во вторых строках...»

А мама ў грубку падкладала дроў,
Навіны мне цярпліва дыктавала,
Паклоны ад усіх перадавала,
Хто ў вёсцы заставаўся «жыў-здароў»...

Прыпомніў я ваенныя лісты,
І раптам мне душу аж скаланула,
і штосьці ў сэрца вострае кальнула:
Што з намі стала, сёстры і браты?

Аднаасобна кожны з нас жыве:
Далёка Ніна — у Талды-Кургане, '
Не едзе ў госці бабруйчанін Ваня —
Наш брат.
І нас на святы не заве.

Забыліся адно пра аднаго
І повязь з хатай роднаю згубілі.
Якія ж духі памяць нам адбілі
Да роднага і кроўнага свайго?

Ступала ноч нячутна па двары,
Маўчала і маўчаннем дакарала.
У гэту хату мама нас збірала.
А хто цяпер — без мамы — нас збярэ?

III
О, наша мова — плыткая рака,
Што, плывучы, вытокаў не губляе.
Я пазнаю дзе хочаш земляка
Па выгавару,
Як ён вымаўляе.

Хоць па-турэцку загаворыць ён —
Публічна выкрыць я яго бяруся.
Звініць, звініць лугоў мурожных звон
У голасе нягучным беларуса.

У мовы інтанацыі свае,
Дасведчаны адразу іх пазнае:
Так нетаропка ручаёк пяе,
Так мякка шэпча цішыня лясная.

Я разам з вёскай раненька ўстаю,
Я да людзей бягу, як на спатканне.
Я хмельны водыр роднай мовы п'ю,
Купаюся ў бяздонным акіяне.

«Антосішын Валодзя прыляцеў...»
Кабета толькі мімаходзь зірнула.
«А дайце ж рады — як ён патаўсцеў,

Няхай бы яго качка убрыкнула!»

Я слухаю, і ўсе мае гады
З мяне страсае добрая прырода.
Я зноў тут свой — рахманы, малады,
Вучуся мове ў мудрага народа.

IV
У вёсцы не жыццё без малака.
Пі сырадой — дык будзеш век здаровы.
З'язджаецца паціху талака,
Каб накасіць на зімку для каровы.

Прыехаў Ваня ўчора па званку.
Касу адбіў.
«Аж голіць, хоць старая...»
Цяпер жа, прымасціўшыся ў цяньку,
Ён вішні — пераспелі! — абірае.

Як у дзяцінстве, мы іх з плоту рвём,
Замурзаліся аж па вушы сокам.
Іван пытае: «Як, браток, жывём?
Спяваем гімн аблокам і асокам?»

Вачэй не бачу, ало чую: кпіць,
Пакуль што непрыкметна падступае.
Для Вані падсмяяцца — не купіць,
Душу балюча жартам калупае.

І я ў адказ няўпэўнена мычу
Аб тым, што жыць будзённа — дакучае.
Збіваюся, губляюся, маўчу...
Ды тут мяне пляменнік выручае.

Ён заязджае з вуліцы на двор
На купленым нядаўна «Запарожцы».
Ён заглушае чмыхаўку-матор,
Выходзяць з жонкай, быццам перамолаты.

Сястра мая як не крычыць «ура»,
Свайго сынка з нявесткай сустракае.

Ах, сенакос, гарачая пара.
Даўно дзялянка рупных рук чакае.

Прыехалі касіць жа, не гасціць,
І ўсё ж пячэцца традыцыйна скварка.
«Дзе ж Алічак?»
«Пад вечар прыляціць,
Штось на рабоце нейкая запарка».

У Лелі, як у казцы, тры сыны —
Мужчынская трывалая апора.
У Мінску два працуюць — «бальшуны»,
Саўгасны энергетык — меншы, Жора.

Дачушка Людка ёсць... але яна
Далёка —
за паўднёваю граніцай.
Няхай ёй сёння сніцца не вайна,
Няхай радня — дварчанская — прысніцца

Вячэра кліча... шумна грамада
Бярэцца за яешню і аладкі.
Мы ўсе свае, мы з гэтага гнязда,
Адной крыві,
адной зямлі нашчадкі.

Смяёмся шмат, бо мы — жартаўнікі,
Жыццём незасмучоная парода.
Усе працаўнікі —
Прадстаўнікі
Мазольнага і вольнага народа.

За поўнач песня з вокан паплыве —
Вяскоўцы, мы іх ведаем багата...
Жыве зямля, пакуль на ёй жыве
Бацькоўская —
З народнай песняй —
Хата.

V
Рэня, душа лясная,

Звадзі мяне пад дубы...
Рэня ўсе месцы знае,
Дзе ягады, дзе грыбы.

Усе баравыя навіны
Як хто ёй перадае.
Чарніцы, брусніцы, маліны
У сховах чакаюць яе.

«Нашто табе столькі, Рэня?» —
Нязлосна з яе пакплю.
«Я навару варэння,
Баравікоў насалю.

Прыедзе ў суботу Косця,
І Ліду спаткаю, сястру...
Прыходзьце, Валодзя, у госці —
Бульбачкі навару.

Нічога не прыхаваю —
Ці шмат мне патрэбна, га?
Я песню вам праспяваю
Пра брата багатага...»

Ды раптам яна спахмурнее
І скроні рукою патрэ.
«Ой, дрэнна мне, свет чарнее...»
Асунецца, абамрэ...

...Бегла праз лес дзяўчынка,
Праз купіны і праз пні.
За лесам вёска Старынкі
Палала ў пякельным агні.

Бегла да крайняй хаты,
Туды, дзе сястра жыла.
Паганцы, бандыты, каты
Спалілі вёску датла.

Аж захлынулася Рэня
Ад чорнага дыму з двара.

Ляжала на загуменні
Застрэленая сястра.

Апошнія дні хадзіла
Цяжкая жаданым сынком.
Канаючы, нарадзіла...
Працята дзіцятка штыхом.

«Няхай вас пярун пакарае...»
Малая скляла, як магла.
Зямля з-пад яе паплыла.
І з той пары абмірае.

Рэня па лесе бродзіць,
Як дух неспакойны лясны.
Жах з яе не выходзіць
Ад той пары,
Ад вайны.

VI
Пакошаны росныя травы,
Засумавалі лугі...
Мне не касіць атавы.
Бывай, мой Дварэц дарагі...

Бывайце, радня і суседзі,
Пляменнікі, брат і сястра.
Хутка аўтобус прыедзе —
Пара мне ў дарогу, пара...

Паклон табе самы нізкі,
Мой край залацістых бароў!
Вёска — мая калыска
Гайдаецца між вятроў.

Бывай, лесуніца Рэня,
Не паддавайся журбе.
Спелых арэхаў жменю,
Як памяць, вязу ад цябе.

І песень народных нізку

З вуснаў тваіх: «Спявай...»
Вёска, мая калыска,
Бывай, дарагая, бывай...

Перхаў, паехаў, паехаў —
З наказам сястры: «Пішы!»
З варэннем, са жменяй арэхаў
І з песняю
У душы.

* * *

Пусцеюць нівы спакваля,
Гудуць натруджана камбайны,
Спаўна адплочвае зямля
За хлебаробскі догляд дбайны.

Бляск залацістае ракі —
Плывуць у грузавік зярняты.
Падняў вядро у дзве рукі —
П'е нагібкам зямляк мурзаты.

Вада цячэ па барадзе
Т льецца па грудзях за дзягу.
Ён і брывом не павядзе,
Ён прагна наталяе смагу.

А размаўляць няма калі,
Напіўся — хутка да машыны,
Бо покліч чуецца — рулі!
Заняты справаю мужчыны.

* * *

Разгарадзіліся двары,
Там-сям і комін заваліўся.
Ля вуліцы асвер стары
Нямогла к плоту прыхіліўся.

За вёскай — вольны белы свет,
Кусты, лугі, жыты сцяною.
Ля крайняй хаты жвавы дзед
Стаіць, вітаецца са мною.

Нібы знаёмыя даўно,
Што дачакаліся сустрэчы,
Садзімся з ім на бервяно —
Перакурыць як раз дарэчы.

«Хацеў вось замяніць шуло,—
Тлумачыць мне дзядуля ціха,—
Ды летам часу не было,
Цяпер падумаў: а наліха?

Папраўлю хату — а каму?
Здаецца, я сваё адгрукаў.
Лепш пераеду на зіму
IIа цэнтр — да сына і да ўнукаў.

Калі б яшчэ былі ўдваіх,
Калі б мая была жывая...
Не, трэба ехаць да сваіх.
Памру адзін — хто пахавае?»

Тырчаў тапор у бервяне.
«Вось накурыўся, як на свята...»
І дзед пакрочыў ад мяне
У двор,
Да сіратлівай хаты.

* * *

Прайшла гарачая пара.
Ля весніц — восень залатая.
Лістоту жоўтую з двара
Віхор раз'юшаны змятае.

Аблокі з поўначы плывуць,
Магутны дуб задумна дрэмле.
У вырай журавы завуць
З сабой у сонечныя землі.

Дарма! Бывайце, журавы!
Ляціце ў цёплую краіну.
Сваю зямлю, пакуль жывы,
Дзеля цяплейшай не пакіну.

* * *

Толькі два тыдні ў горадзе
Бабуля прабыць і змагла.
Сказала сабе: «Во гора дзе...»
Сабралася і ўцякла.

Сын і нявестка хвалююцца,
Не ведаюць, бегчы куды.
Нервуюцца: каб на вуліцы
Не здарылася бяды.

Бабуля ж сядзіць у аўтобусе,
З хітрынкаю вочы глядзяць.
Вясёлая, бо вакол усе
Такія ж вяскоўцы сядзяць.

«Дурніца была, што карову
Збыла таму куркулю...
Але калі буду здарова,
Вясной маладую куплю...»

Думае пра парасятак...
Дроў дасць старшыня ці не?
Бабулі дзевяты дзесятак...
Заўтра з нуля пачне.

* * *

Няма ўжо старой мяжы —
Горад памкнуўся на волю.
Лезе, як цеста з дзяжы,
Займаючы луг і поле.

Ужо на дзесятай вярсце,
Дзе вёска была старая,
Мікраараён расце,
Воблакі падпірае.

На веснавы папас
Карова з хлява не выходзіць.
Горадам стаў калгас,
Працуе цяпер на заводзе.

І надвячоркам «казла»
Былы хлебароб забівае.
Магчыма, няма ў гэтым зла,
Дый хлеба не прыбывае.

**Касьба**

Ранак — нягучнагалосы.
Туман — лебядзіны пух.
Наладжаны вострыя косы,
На плечы іх — і на луг.

Вось табе і зарадка,
Гімнастыка — раз і два!
Каса выбірае гладка,
Пахне, аж хмеліць трава.

Сотку сваю я ўходаю,
Пакуль не аслабла рука.
З нязведанай асалодаю
П'ецца вада са жбанка.

* * *

Рэчку туман спавівае,
Сціхлі гуллівыя хвалі.
Моладзь на вёсцы спявае,
Як некалі мы спявалі.

Наехалі гарадскія,
Песні пяюць невясковыя,
Не тыя і не такія,
Што намі спяваліся —
Новыя.

Мы доўга не засынаем,
І веснічкі ўжо адрыпелі,
Да раніцы прыпамінаем,
Што ў маладосці пелі.

* * *

Зімовы дзень...
Нібы мядзведзь бухматы,
Ля брамкі гурба белая расце.
Ад раніцы мяцеліца мяце,
Хлапца малога не пускае з хаты.

Сядзіць адзін.
Трывожыць цішыня.
Праз шыбіну самотна пазірае,
Як завіруха цуды вытварае.
Бацькоў чакае з працы хлапчаня.

Саскочыць раптам з крэсла стрымгалоў,
Калі ўцікуе на падворку маці.
Запахне снегам студзеньскім у хаце.
Абдымуцца шчаслівыя,
Без слоў.

* * *

Я зноў — начлежнік выпадковы
З аскомай пылу на зубах —
Вітаю дух і дах вясковы,
Сасновай хаты хмельны пах.

Я сёння дзень адтопаў пешшу,
Шаптаў зямлі: «Я вечна твой».
Цяпер размовай сэрца цешу
І мовай, як жыццё, жывой.

Душу маю не пакідае
Тугі трывожнай пачуццё.
Кабеціна немаладая
Апавядае пра жыццё.

Расказвае пра несалодкі
Свой лёс, паранены вайной,
Пра парсючка,
Пра хлеб,
Пра соткі,
І пра кароўку,
І пра гной...

«Усё жыццё адпрацавала,
З цямна рабіла да цямна.
Дзяцей васьмёра ўзгадавала,
А дажываю вось адна...»

**Янка Купала ў Ляўках**

Зязюля ў бары кукавала,
Шчасліва лічыла гады,
Ішоў праз Ляўкі Купала,
Задумлівы, як заўжды.

Вітаўся з людзьмі нешматслоўна,
Руку хлапчуку падаваў,
І ўсмешка блукала няўлоўна,
І позірк яснеў, адтаваў.

Абуджаны свет, шмагалосы,
Быў повен зямной гаманы.
Паэт разуваўся — і босы
Ішоў, закасаўшы штаны.

Усё наваколле спявала,
Вітала свайго песняра.
І новую песню Купала
Складаў ля сівога Дняпра.

**Маці старшыні**

Жыве старэнькая адна,
Пасаду ў вёсцы сын займае.
Ён ад цямна і да цямна
Часіны вольнае не мае.

Яна ад ранку — на градзе,
А вуліца — навідавоку,
І ці хто едзе, ці ідзе —
Усе ў бабулі ў полі зроку.

Хоць недачуе ўжо,
                    але
Машыну пазнае любую.
«Валодзя едзе на «казле» —
І да варотцаў пашыбуе.

Сынок ступае на зямлю.
«Дзень добры, мама дарагая...»
«Счарнеў, ідзем хоць пакармлю..
І сын разгублена міргае.

* * *

Гарачай бульбачкі зварыла,
Аладак пульхных напякла,
З сабою перагаварыла
Пра ўсё,
Прысеўшы да стала.

Гарэлі дровы — аж гудзелі,
Стралялі гучна вугалі,
І вочы, што ў агонь глядзелі,
Смугой напоўнены былі.

Праслухала прагноз надвор'я,
Тым часам і агонь датлеў.
Пацiху выйшла на падвор'е,
Да свінкі завітала ў хлеў.

Вярнулася, ўздыхнула цяжка,
Ля брамкі прыпыніла крок...
Хаця б адзін прыехаў — Сашка,
Міколка, Янка ці Пятрок...

Хадзіла, нібы што шукала,
Адчула, як нутро дрыжыць.
Яна чакала і чакала...
А як ёй, не чакаўшы, жыць?

**Гаспадары**

Іваньковічы —
Пётр і Марыя —
Хлебасольныя гаспадары —
Прынялі мяне, як старыя,
З распрадаўніх часоў сябры.

«Распранайцеся, будзьце як дома,
Калі ласка, заходзьце ў пакой.
Мы, вяскоўцы, жывем, вядома,
Без шыкоўнасці гарадской.

Ну, а вы — захацелі праверыць
На сабе, як жывуць на сяле?
Зараз спраўлюся — будзем вячэраць...»
І з'явіліся на стале

І яешня,
          і бульба,
                    і скварка,
І вяндліны пахучай скрылі —
Тое ўсё, што дае гаспадарка,
Ад чаго на руках мазалі.

«А для моладзі — горад спакуса...
Што там робіцца — апішы...»
Пазнаю,
          пазнаю беларуса
Па адкрытасці шчырай душы,

І па гумары трапным, вясковым,
І па хітрым прыжмуры вачэй.
Запаветным забытым словам
Ажыўляецца думка лягчэй.

Вось паэзіі дзе крыніца —
Для натхнення бязмежны прасцяг...
О, як мякка і соладка спіцца,
Нібы ў мамы калісьці ў гасцях...

**Проза жыцця**

Назіраю будзённую прозу жыцця,
І яна мяне вельмі хвалюе.
Трактар сена павёз.
Гучна плача дзіця.
Пад паветкай дзед дошку габлюе.

Ля канторы свой «газік» спыніў старшыня.
Самазвал прапыліў па дарозе.
Зноў збіраецца дождж.
Гарачыня…
Што ж хвалюе мяне ў гэтай прозе?

Заставацца ад справы ўбаку не магу.
Нарастае на сэрцы трывога.
Назіраць не хачу.
Да людзей пабягу —
Можа, трэба мая дапамога.

* * *

Іду, з вяскоўцамі вітаюся...
Грыміць бітонамі падвода.
Спынюся з дзедам, запытаюся:
Ці будзе дождж, а ці пагода?

Пад пажаўцелымі бярозамі
Лістоту вецер замятае.
«Пужае радыё марозамі...
І я скажу: пахаладае...»

Дыміць дзед горкай цыгарэтаю,
Звісаюць хмары чорным ценем.
Я крочу з навіною гэтаю,
Як з тэрміновым данясеннем.

Бо хоць зіма далёка — дзе яшчэ,—
Трывога ў сэрцы не знікае:
Ляжыць не ўзняты лён на сцелішчы,
Бурак — не вырваны — чакае...

* * *

Тут, кажуць, вёсачка была,
Цвіла жывым вясёлым цветам.
Спявала, плакала —
жыла,
Руплівая зімой і летам.

Далекавата ад шашы —
Для старшыні як костка ў горле —
І тры апошнія душы,
Што лішнія былі,
Памерлі.

Меліяратары прыйшлі,
Капалі весела і гулка.
Канал глыбокі правялі,
Там, дзе была калісьці вулка.

Каго дзівіць?
Каго карыць?
Жыццё імчыць нястрымна, плынна...
Дзе вёсачка была,
Гарыць
Чырвоным полымем каліна...

* * *

Дождж са снегам,
Лівень з градам
Б'юць у твар — вачэй не ўзняць.
Дрэвы сыплюць лістападам,
Меднай дробяззю звіняць.

Па-над светам — чорна-шэра.
Хмара жах з сабой нясе.
Ані птушкі,
Ані звера —
Пахаваліся усе.

Дзесь ля цёплай батарэі
Дармаед свой лёс кляне.
Тут жа ямбы і харэі
Дождж выстуквае па мне.

**Цыганка і жарабя**

Цыганка ў вопратках стракатых
Чакае старшыню ў канторы,
Апавядае штось заўзята
І гучна — чутна ў калідоры.

«Здароў, хлапец! — мяне вітае
(І вострым позіркам прашыла).
Не бачыў старшыню?» — пытае.
«Паваражыць яму рашыла?»

«Не кпі з мяне, дурной, дзіцятка,
А то й з цябе хтось пасмяецца...
Ёсць у калгасе жарабятка,
Хачу спытаць, ці прадаецца.

Куплю. Мне — конь, калгасу — грошы,
Як вырасце, цябе паклічу —
Жаніцца будзеш, мой харошы,
Стаенніка табе пазычу».

Назаўтра бачыў: два мужчыны,
Што на забой кароў вазілі,
Звязаўшы ногі, на машыну
Малое жарабя грузілі.

І плакала кабыла-маці
Слязьмі, усхліпваючы глуха,
І штось шаптала жарабяці
Цыганка хітрая на вуха.

* * *

Жыта зжалі. Апусцела ніва.
Праляцеў празрысты грыбасей.
Глянь у неба: сумна-гаманліва
Клін раўняе чарада гусей.

Воз бухматы цягнецца ў знямозе,
Падбірае цяжкай працы плён.
Дзве студэнткі на высокім возе
Укладаюць спрытна колкі лён.

Укладаюць, хітра паглядаюць
З гэтай самаходнае тарпы
На хлапцоў, якія ім кідаюць,
Разгайдаўшы, важкія снапы.

Смех вясёлы лётае па полі,
Льецца радасць цераз берагі.
А ў мяне сціскаецца ад болю
Сэрца
Ад асенняе тугі.

**Нашчадак**

Не відаць хлапца з-за абаранкі,
Не малы — а крышку недарос.
Сын малодшанькі ў шафёра Янкі
Да машыны цягнецца ўсур'ёз.

Ён з калыскі — татаў памагаты.
Кожны дзень чакае аднаго:
Спыніцца машына каля хаты,
Татка возьме пакатаць яго.

Сварыцца на іх бабуля Анця,
Дзеля страху выламіць дубец:
«Зноў у каланіцу, толькі гляньце,
Да вушэй умурзаўся хлапец».

Янка непрыкметна засмяецца,
Ціха скажа: «Сын, заводзь матор!»
І сабе падумае: «Здаецца,
Будзе з хлопца неблагі шафёр».

**Пенсіянерка**

Хлеб аржаны на засланым стале,
Жбан з малаком і шклянкі...
Рукі стамлення на прыпаяе,
Рукі руплівай сялянкі.

Чаго за жыццё не рабілі яны!
Хто тое ўсё прыгадае?
Помніць кабета дні да вайны,
Калі была маладая.

Помніць, як бегала жаць за раку
Юная камсамолка,
Помніць, як сціпла вёў пад руку
Хлапец з вечарынкі на золку.

Дзе тое ўсё, за якою гарой?
Горкая доля ўдалася.
Загінуў хлапец на вайне як герой.
Адна векаваць засталася.

І сёння — чаканы — прыходзіць у сны.
А колькі начэй недаспала.
Жбан з малаком і хлеб аржаны
Зранку стаяць... Не чапала...

* * *

Дубнякі, Каралёва, Варонічы —
Спяць у назвах сівыя вякі...
Ад нашэсцяў радзіму баронячы,
Падымаліся ў бой землякі.

Пакланіўшыся долу і небу,
Пакланіўшыся хаце сваёй,
Неўрадлівую родную глебу
Палівалі густою крывёй.

І, абняўшы зямлю, паміралі,
А жывыя наперад ішлі,
І вярнуліся зноў, і ўзаралі,
І засеялі збожжам палі.

Каля Блізніцы жыта красуе,
Буйнатраўем заве сенажаць...
Да магілкі букецік нясу я,
Дзе з вайны хлебаробы ляжаць.

## Пасля выпускнога

Час прыходзіць — рашаючы, строгі,
Шлях бясконцы ляжыць непачаты.
Выбіраюць свае дарогі
У жыццё юнакі і дзяўчаты.

Нібы ў казцы — налева, направа
І наперад — без паваротаў.
Дзе ж ты, дзе ты, галоўная справа?
Маці слёзы змахне ля варотаў.

Не праходзілі гэтага ў школе
І хвалююцца: што іх чакае?
А навокал — бацькоўскае поле,
Што ніяк ад сябе не пускае.

**Зубрэвічы**

*Янку Сіпакову*

Па Зубрэвічах верасень ходзіць,
Па Зубрэвічах восень гуляе,
То самотную песню заводзіць,
То з самою сабой размаўляе.

У Зубрэвічах дагарае
Залатое бабіна лета.
Вёска бульбачку выбірае,
Сіла кінута ўся на гэта.

І бабулька тэпае з кіем,
Ногі слабыя, нібы п'яныя.
Заспяшаліся гарадскія
У Зубрэвічы на выхадныя.

У Зубрэвічах пахне картопляй...
Што ж мне гэтак сэрца сціскае?
Дажджавая першая кропля,
Як слязінка,
Па шыбе сцякае.

* * *

Сёння хаваюць бабулю,
Тутэйшую цётку вясковую.
Яе апранулі, абулі,
Нібы на свята — у новае.

Бачу, як з хаты выносяць
Мужчыны нябожчыцу моўчкі.
Ніхто па старой не галосіць —
Не павучыліся дочкі.

Не дачакалася сына
Маці на пахаванне
Аднекуль — ці з Сахаліна,
Ці з цаліны ў Казахстане.

Паставілі крыж,
І вяночак
Прыпаў да яго пахіла.
«Сыночак, сыночак, сыночак...»
Плача-рыдае магіла.

**Восень**

Ідуць дажджы.
Над нівай і над гаем
Стаіць густая хмара-каламуць.
Мы бульбу выбіраем.
А над краем
Дажджы бесперапынныя ідуць.

Паветра паласуюць наўскасую,
Да долу прыбіваюць палы ліст.
IIa змяклай ніве трактарок буксуе,
І лаецца скрозь зубы трактарыст.

Бяссільны чалавек-пераўтваральнік
Супроць дажджу.
Хоць плач, хоць закрычы.
Стаю на полі — мокры назіральнік —
І не магу нічым дапамагчы.

* * *

Сур'ёзная праблема — не да смеху,
Праблема хлеба і вясковых спраў.
А ты паназіраў — ды і паехаў,
Матэрыял для нарыса сабраў.

Дамоў — у горад!
Жонка мяса купіць
І боршч гарачы ў міску наліе.
А над палямі дождж бясконцы лупіць,
Амаль што месяц не перастае.

Табе праблемай гэта не здаецца.
Іграеш ролю мудрага суддзі
Над тым, каму так цяжка хлеб даецца
У спёку, ў навальніцу і ў гразі.

**Люблю зямлю...**

Люблю зямлю,
Дзе карані мае.
Сталеючы, люблю яе ўсё болей,
Дзе шпак вясёлы раніцай пяе,
Дзе ходзіць трактар у вясеннім полі.

Люблю і сам пайсці з касой на луг,
Яшчэ да сонца па расе іскрыстай,
Люблю нясмелы першы гук і рух
Вясковай раніцы,
Нібы сляза, празрыстай.

Люблю народнай песні шырыню,
Яе матыў, гарэзны ці гаротны,
З крыніцы піць люблю ў гарачыню,
Расцерці ў жмені колас:
«Ці ўмалотны?»

Люблю зямлю...
У чарадзе падзей
Усё часцей, часцей прыпамінаю
Свой родны кут —
І вёску, і людзей,
Жыццё якіх,
На жаль,
Так мала знаю.

**Наша хата**

Пад нашай хатай зорка зіхаціць,
Пад нашай хатай сонца ярка свеціць,
Над нашай хатай песенька ляціць,
Над нашай хатай — дым смачнейшы ў свеце,

У нашай хаце — бохан на стале,
У нашай хаце сон салодкі сніцца.
У нашай хаце — мір жыве,
                                                            але
У грозны час
Ёсць чым абараніцца.

**Маці**

Як уся сям'я збіралася
Вечарам каля стала,
Маці сынам любавалася,
Наглядзецца не магла.

І, не ўмеючы, малілася,
Штоначы прасіла лёс,
Каб навала не звалілася,
Каб сынок здаровы рос.

Свет застаўлены ракетамі
Гэта ёй не ў навіну —
І сачыла за газетамі:
Ці здымаюць хоць адну?

* * *

На захад сонца
Цені ўсё даўжэюць...
Пакошаны мядовыя лугі.
Цішэюць гукі,
Крокі ўсё цяжэюць,
Цяжар гняце —
Жыццёвыя даўгі.

Не пабягу бяздумна,
Як калісьці,
Каб стаць за лёгкім шчасцем у чаргу.
Шапоча сумна пад нагамі лісце:
«Чакае старасць
Вунь на тым рагу».

Прыйшла?.. Няўжо?
А можа, не за мною?
Я столькі ўзяў, я мушу аддаваць.
Я абміну старую
Стараною.
Мне хочацца
Кахаць і працаваць.

* * *

Завіхацца,
Каб аж задыхацца,
Да знясілення працаваць,
Зненавідзець або закахацца —
Да канца ўсю душу аддаваць.

Аддавацца і справе і слову
Без агляткі:
А што буду мець?
Быць сумленным —
Не напалову,
А да кропкі:
Ці праўда, ці смерць...

...Ах, паэты...
Усіх яны клічуць
К прынцыповасці:
Так альбо не!

Гэты заклік перш-наперш датычыць
Не кагосьці,
А толькі мяне...

* * *

Яны прайшлі,
Але не аддаляюцца,
Гады бяды,
Гады ліхой вайны.
І што ні дзень
Маланкава з'яўляюцца
У нашу яву,
Ва ўспаміны,
Сны.

Калі спяваем песні над калыскамі
Пра мір,
Пра маму,
Пра стракаты шар,
Мы помнім і магілкі з абеліскамі,
І жудасны —
З людзьмі ў агні —
Пажар.

Калі маўчым жалобнаю хвілінаю,
Мы зноў туды вяртаемся усе.
...Ідзе ў слязах
Унук за дамавінаю,
Цяжкую памяць
У сабе нясе.

* * *

Перапляліся у часе падзеі —
Сонца і хмары,
Песні і проза,
Смутак і радасць,
Боль і надзеі,
Сіла і слабасць,
Шчасце і слёзы.

Цяга да дзеі і прага спакою,
Ад перагрузак нікуды не дзецца...
Як жа трывае ўсё
Сэрца людское?
Як ад напругі
Не разарвецца?

* * *

Змяркаецца.
Кароткі дзень зімовы
Сырым кастром без полымя згарэў.
Сыходзіць сум задумны вечаровы
Ад цьмяных ліхтароў,
Ад голых дрэў.

Зямлю пухнатай полкай спавівае
Нябачная руплівая рука.
Мяцеліца сівая
Завывае.
Сплывае час —
Імклівая рака.

* * *

Бягу наўпрост
Па шэрані сцвярдзелай.
Якое сонца!
Іскры уваччу!
Настрой бадзёры,
Маладзее цела,
Пра дрэннае і думаць не хачу.

Усё навокал —
Чыста і прыгожа.
Вячысты бор задумаўся ў цішы.
Ніхто азмрочыць,
Верыцца,
Не можа
Мне сёння радасць светлую ў душы.

Бяжыць лыжня —
Бліскучая дарога —
Праз белы снег
У горад, да жытла...
Далёкі ўскрык —
Імгненная трывога,
Як цень жахлівы
Пасярод святла.

* * *

Круцяцца планеты, нібы жорны,
Ні на міг не ведаюць спакою.
Паміж імі пыл клубіцца зорны,
Сыплецца іскрыстаю мукою.

Час — вада.
Імклівa, без прыпынку
Ён сцякае незатрымна ў Лету.
Чалавек — малая парушынка
У бязмежнай глыбіні Сусвету.

Што ён можа?
Што яго чакае?
Да канца нязведаны законы
Космасу.
І чалавек шукае
Ад стыхійнай сілы абароны.

Гаспадар —
Ён позіркам цвярозым
Аглядае дом свой шматпакутны.
Чалавек — малы...
Ягоны ж розум,
Як Сусвет —
Бязмежны і магутны.

* * *

Не ведаю, колькі яшчэ мне ісці —
Свой лёс аніхто не ўгадае.
Дрэўца ля шляху саджаю: «Расці,
Бярозанька маладая!»

Побач з табой зашумяць каласы,
Ты ўбачыш мяцеліцу злую.
Вецер пагладзіць табе валасы,
Суцішыцца і пацалуе.

А ў летні спякотна-задушлівы дзень
Хтосьці свой шлях перапытае
І зверне спачыць да бярозкі у цень...
Будзь ветлівай гаспадыняй!

**Маладая маці**

Маці маладая
Сына спавівае,
Каб салодка, смачна
Спалася яму.
Ціхенька люляе,
Песеньку спявае,
Штось на вуха шэпча
Роднаму свайму.

А малы булькоча,
Гукае, сакоча,
Хутка разам з мамай
Песеньку спяе.
І глядзіць у вочы,
Як сказаць што хоча,
Толькі слоў пакуль што
Хлопцу нестае.

Хлопчык засынае.
Маці захінае
Вочкі ад трывожных
Водбліскаў святла.
Сэрца штось сцінае,
І сляза буйная
Па шчаслівым твары
Раптам пацякла.

**Мара**

Дзяўчынцы хацелася птушкаю стаць,
Вольнай і легкакрылай,
У неба, за грозную хмару, злятаць,
Што далягляд закрыла.

Адчуць прахалоду касмічных вятроў
У вышыні неабсяжнай
І ля гарачых нябесных кастроў
Рукі пагрэць адважна.

«Хай будзе на свеце болей святла!» —
Так яна сонца вітала.
У марах высокіх дзяўчынка расла,
У сне — пакуль што — лятала...

**Дзяўчынка з брацікам гуляе**

Дзяўчынка з брацікам гуляе
У летнім сонечным двярэ.
З ім размаўляе, забаўляе,
За ручку пульхную бярэ.

Яна яму галоўку гладзіць,
Сцірае плямку са шчакі.
Яна яго на лаўку садзіць,
Пад пахі ўзяўшы ў дзве рукі.

Яго галубіць, галубочка —
Ужо вялікая сама.
Дзяўчынцы, можа, пяць гадочкаў,
А хлопчыку і двух няма.

Дзяўчынка з брацікам гуляе,
А маці сочыць ад акна...
А дзесьці у дзяцей страляе
Зноў ненаежная вайна.

* * *

Прачынаюся, як ад штуршка.
Што трывогу маю парадзіла?
Ці то стукнула ў шыбу рука,
Ці то шумная ноч разбудзіла?

Да маўклівых дзвярэй падбягу,
Гляну ў шыбіну: што там, у змроку
Цьмяна свеціць ліхтар на рагу.
Ноч і ціша. Ні крыкаў, ні крокаў.

Устрывожаны гэтым спярша,
Паступова даю сабе рады.
Гэта, пэўна, чыясьці душа
Прылятала прасіць спагады.

* * *

Было,
Што збываліся мары,
І шчасце здавалася блізка.
Было —
Разбягаліся хмары,
Што навісалі так нізка.

Было —
Сярод цёмнае ночы
Рабілася раптам светла.
Было —
Твае любыя вочы
Так пазіралі ветла.

А сёння завалаклося
Усё наваколле імжою,
І тое,
Былое,
Здалося
Мне
Даўнінай чужою.

* * *

Свет вялікі, шматгалосы
То галосіць, то пяе.
Не,
Аднолькавыя лёсы
Двум жыццё не выдае.

Тут і крыўдзіцца не варта,
І зайздросціць тут — дарма.
У жыцця няма стандартаў —
Дзякуй богу, што няма.

* * *

Па-над градамі, па-над садам
Прайшла навальтіца-навала.
Расаду пабіла градам,
На дрэвах сукі паламала.

Нанесла стыхія шкоды.
Ды людзі за справу ўзяліся —
Глянь: зелянеюць гароды,
Глянь: і сукі прыжыліся.

Душа мая здратавана
Жыццёваю навальніцай.
Працай лячу свае раны.
Глянь: пачынаюць гаіцца.

* * *

Руплівы ткач не запыняе кроснаў,
Ён вечнасць тчэ — квяцістае радно.
Чарговы год —
Нялёгкі, высакосны,
На страты і на радасці укосны,
З астатнімі затканы
У адно.

І тчэцца час,
Узорамі багаты,
А свет наўкол галосіць і пяе.
Руплівы ткач
У свой дыван стракаты
Затчэ пацішу радасці і страты —
Сусветныя,
А разам —
І мае.

* * *

Мы любім праўду, ды не ўсю гаворым,
Трымае вечна нешта за язык:
То страх агідны, то фальшывы сорам,
Раз змоўчыш, два разы —
А там прывык.

Бывае з кожным так — чаго таіцца...
Таму і працвітае балбатня,
Што хлус нахабна хлусіць — не баіцца,
Што сораму не ведае хлусня.

* * *

Няўжо забылі, што перажылі,
Як бедавалі, хаты будавалі,
Галодныя, халодныя былі,
Палі, што задзічэлі, засявалі?

Няўжо забылі, як апошні кус
Паміж сабой, схуднелыя, дзялілі,
Як хлусу ў вочы гаварылі: «Хлус!»
І дурня — хоць начальнік — не хвалілі?

Калі злаўчыліся хадзіць бачком,
Біць слабага, а хітрага баяцца,
Не берагчы бацькоўскі родны дом
І з мовы матчынай
Пагардліва смяяцца?

* * *

І калі гэта ўсё пачалося?
Мы ж, здаецца, як людзі жылі...
Колькі дрэні вакол развялося:
Гультаі,
Халуі,
Круцялі.

Мы вучыліся,
Мы працавалі
На зямлі, ля заводскіх станкоў.
Сумавалі
І песні спявалі,
Даглядалі знямоглых бацькоў.

Мы высокія ставілі мэты,
Каб праславіцца на вякі:
Інжынеры, музыкі, паэты,
Незаменныя кіраўнікі.

Сціпласць трацілі —
Славы хацелі.
У падманлівай таўхатні
Багацелі,
Душою сыцелі,
Забываліся пра карані.

Ці не з гэтага ўсё пачалося?
Навучыліся «вешаць лапшу».
А сумленне — ці засталося?
А ці думаем пра душу?

* * *

Калі ад шчырасці адвыклі?
Што думаем?
А што гаворым?
Сардэчныя сяброўствы зніклі.
Карыслівы разлік — не сорам.

Хаваем хітрыя пагляды.
Хто праставаты —
Вінаваты.
Да слабага няма спагады.
Зноў у пашане стаў багаты.

Што за навала?
Дзе прычына?
Адкуль такі набытак сумны?
Хто на машыне —
Той мужчына.
Хто на пасадзе —
Той разумны.

* * *

Ветлівы, сціплы, ціхмяны,
Вочкі як васількі.
Хоць прыкладай да раны —
Мякенечкі такі.

Побач жыццё віруе,
Вялікая бойка ідзе.
А ён сабе дачу майструе,
Трывалы падмурак кладзе.

З будоўлі дзяржаўнай
Цагліны
Нясе сабе пакрысе.
Даводзіць з бяскрыўднай мінай:
«Не забяру ж я
Усе...»

Будаўнікі на сходзе
Шумяць,
Хтось грыміць кулаком...
А ён сабе дачу узводзіць
З накрадзенага...
Цішком.

* * *

Прыцішыўся, як на каго палюе...
Утульна і няпыльна — любата!
Яго знадворку бура не хвалюе.
Шуміха?
Спрэчкі?
Глупства і лухта!

Галоўнае — стрымацца, не сарвацца.
А то нарвешся — ды не на таго.
Галоўнае — карыта пільнавацца...
А там яшчэ пабачым — хто каго!

## Калі апануе бяда

Прыходзь да мяне, калі грошай не будзе,
Прыходзь, як прытулку не знойдзеш нідзе,
Прыходзь да мяне, калі сябра забудзе —
Сябры пазнаюцца найлепш у бядзе.

Прыходзь да мяне, калі ўсе адракуцца,
Як скажуць «прапашчы», махнуўшы рукой.
Прыходзь — мае дзверы табе адамкнуцца,
Не бойся парушыць сямейны спакой.

Прыходзь да мяне, як абрыдне скітацца,
Калі ўжо апошнюю ўбачыш мяжу...
Прыходзь — я нічога не буду пытацца...
Дам хлеба кавалак
І спаць палажу.

* * *

Нічога новага.
Усё даўно было.
Дабро і зло,
Нянавісць і каханне.
Змрок уначы і дзённае святло.
Спеў салаўя і буры завыванне.

Усё было?
Не слухайце хлусню.
Нічога не было яшчэ ніколі.
Наш кожны міг жыцця —
Упершыню
І не паўторыцца,
Каб і хацелі,
Болей.

* * *

Мой лёс —
Галера і прастол —
Гняце мяне і ўсцешвае.
Цягну ярмо сваё, як вол,
А час усё прыспешвае.

Час перадыху не дае,
Віруе, завіхаецца.
Ён і галосіць, і пяе,
Сумуе і ўсміхаецца.

Душа спазнала смак яшчця,
На зведаным не бавіцца,
Як неспакойнае дзіця:
«А што далей?» —
Цікавіцца.

* * *

Губляюся ў думках:
«Навошта жыву?
Нашто чалавек жыве?»
А ці прыходзілі ў галаву
Такія пытанні ўдаве —

Той, што ў блакаду дзяцей зберагла
У сорак чацвёртым вясной,
Што поле ўзарала,
Заводы ўзняла
Сваёю жаночай спіной?

Усё спадзявалася:
Вернецца муж,
Узгадавала дзяцей,
Трывала пакуты ад голада, сцюж,
І сэрца балела часцей.

Сеяла жыта, касіла траву,
Умела тарпу злажыць.
Не думала нават: «Навошта жыву?»
Ведала: трэба жыць.

* * *

Вучыла мама:
«Строга не судзі.
Быць памяркоўным да людзей старайся.
Дурнога стараною абыдзі.
Не вытыркаю^
І не задзірайся».

Я так і жыў:
Стараўся не шумець.
Не хітраваў,
Не махляваў,
Не шкодзіў.
Хацеў душу чужую зразумець.
Злаcліўца стараною абыходзіў.

Дзяліўся з бліжнім
Хлебам,
Навіной.
Знарок не лез «патрэбнаму» на вочы.
А хтосьці — чую — шэпча за спіной:
«Не разумею...
І чаго ён хоча?»

**Надзённае**

Няўжо і ты адвыкнеш ад маны,
Спецыяліст бліскучай справаздачы,
Які праседзеў не адны штаны,
Рашаючы нялёгкія задачы?

Ты звязываў няўлоўныя канцы
І выпраўляў, што выглядала крыва,
Каб лічбы, як адважныя байцы,
Ішлі на бой за гонар калектыву.

Ты смела мінус выпраўляў на плюс
Кароль за папяроваю сцяною.
Мана расла, нібы за вухам флюс,
Пакуль нябачны,
Ды ўжо поўны гною.

Развіўся, каб закрычаць «ура!» —
Уславіць поспехі заўжды ахвочы.
Ды лопнуў флюс,
І надышла пара
Суровай праўдзе паглядзець у вочы.

* * *

Ах, хітруны-гаваруны,
Ах, колькі слоў нагаварылі!
Усе рэкорды перакрылі
Шаноўныя балбатуны.

Як лёгка вылятаюць словы,
Сталёвы голас не дрыжыць.
Клянуцца: без перабудовы
Не ўяўляюць, як і жыць.

Хто запярэчыць — заскубуць,
Перад начальнікам віляюць
І шклянку, як раней, куляюць,
З дзяржавы ў дзве рукі грабуць.

Вы скажаце: такіх прыкрылі,
Нанеслі хапунам удар...
Той-сёй жыве, схаваўшы твар...
Гаваруны і тут схітрылі...

* * *

Разгубіліся штосьці паэты,
Перасталі прыпеўкі спяваць.
Што кляпаць:
Мадрыгалы?
Санеты?
Ці няўдалага крытыкаваць?

Штось заўпарцілася натхненне...
Стой, імгненне!
Не запыніць...
Сэрцу хочацца пра дасягненні...
Ды сумленне крычыць:
«Не маніць!»

Столькі «вечнага» ўжо натварылі
Разабрацца патрэбны час.
Задрамаў і забыўся пра крылы
Перакормлены
Сыты
Пегас.

**Бюракрат**

Які развැжлівы, салідны,
Твар загарэлы, як арэх...
Праз дзве хвіліны ўжо — агідны,
Бо бюракрат і пустабрэх.

Усё найграна, трафарэтна,
Не позірк — мутная слюда.
Гаворка — хоць бы гук канкрэтна,
Дыстыляваная вада.

«Мы разбяромся, мы праверым,
Не абяцаю вам, але...»
Не вам гаворыць, а паперам,
Што гаспадарацб па стале.

«Цяпер прабачце, я заняты...» —
І вы яму «да ліхтара».
Яго з зарплаты да зарплаты
Трымае ўтульная нара.

* * *

Давай, брат, дзённік —
Сёння стаўлю двойку,
Што за паводзіны ты зарабіў.
Чаму за праўду не палез у бойку?
Чаму ад хеўры сябра не адбіў?

Чаму маўчаў, як бэсцілі дзяўчыну,
Што ад агіды трэслася уся?
Чаму за чаркай смакаваў дзічыну —
Забітага злачынцамі лася?

Чаму тапіў нявіннага на сходзе?
А ведаў жа: няма яго віны...
Чаму ганебна пляскаў пры народзе,
Калі гундосіў балбатун дурны?

Давай, брат, дзённік —
Буду двойку ставіць.
Ды хопіць сонна ў носе калупаць.
Ты — малады,
Ёсць час усё паправіць.
Сумленным будзеш —
Я пастаўлю пяць.

У дзённік!

**Яны**

Трапляюць нeяк на пасаду,
Нібы на райскую гару.
З чаргі, ад злодзея, са склада
Нясуць —
Да кучы,
У нару.

Валлё ніколі не пустое.
Хто першы хапнуў, той і зух.
У іх — ніякага застою.
У іх — энергія і рух.

Спытай таго: куды імчыцца?
Мо на сяўбу ці на касьбу?
Ды не.
Спяшаецца ўключыцца
За дэфіцыт у барацьбу.

Яны ў замежным, у прыгожым.
Хоць ёсць Указ, ды п'юць не квас.
Няўжо мы іх не пераможам?
Яны ж смяюцца проста з нас.

* * *

Цяжарам крыху прыгорблены,
Але не сагнуты ў дугу,
Я азірнуся: што зроблена?
Прыкіну: а што я магу?

Паўдзённае сонца стараецца,
У макаўку мне пячэ.
Падумаю: хоць і но раніца,
Але і не вечар яшчэ...

* * *

Спакваля мы звыкаемся з думкай,
Што галоўнае — за спіной.
Як сябе ні прышпорвай, ні тумкай
Не абернецца восень вясной.

Ну а сэрца ніяк не верыць
Ані ў старасць, ані ў забыццё.
Кожны дзень адчыняюцца дзверы
У нязнанае —
У жыццё.

* * *

Набіваючы мазалі,
Да крыві расціраючы ногі,
Па расе, па траве, па раллі,
Напрасткі — праз імшары, аблогі
Да здранцвення, да горкай знямогі
Мы наперад ішлі і ішлі
І не ведалі, дзе і калі
Будзе вешка: «Канец дарогі».
Нам гукалі бары і палі,
Нас вітаў маладзік срэбнарогі.
Мы імкнуліся да перамогі
Над уласнай душой.
Мы ішлі.

* * *

Пасля асенняй марасі і золі,
Пасля завейнай зацяжной зімы,
Загрукаталі дзесьці ў чыстым полі
Вясёлыя вясновыя грамы.

Дыміцца рэчка, і звіняць крыніцы,
Ідзе-гудзе гарэзніца-вясна.
А мы праводзім дзень у камяніцах,
Мы бачым сонца толькі з-за акна.

А каляндар свае лісты гартае,
А час не запыняецца ані...
О, як вясна імгненна пралятае,
Як хутка пралятаюць нашы дні.

Ізноў праходзяць восені і зімы,
Вастрэе боль у зморанай душы.
Гады мінаюць безупынна — міма,
Мільгаюць, як слупы каля шашы.

**Зацягнем песню!**

Ну, што вы, хлопцы, зажурыліся,
Ну, што павесілі насы?
Ці вы ад працы замарыліся?
Ці ў вас пахрыплі галасы?

Ці віск сучаснай моднай песенькі
І вашу здратаваў душу?
Мае сябры!
Мае равеснікі!
Зацягнем нашу!
Папрашу...

Зацягнем тую, што спявалася
І да вайны, і на вайне,
Што праз гады не абрывалася
У тундры і на цаліне.

Што ў космасе падмогай важкаю
Была...
Не здрадзіла нідзе.
Што зноў нас у гадзіну цяжкую
Усіх наперад павядзе.

Давайце ж, хлопцы!
Неадлучную
Ад нашых спраў і ад забаў
Зацягнем песню — звонкагучную,
Каб з намі цэлы свет спяваў.

* * *

Скуголіць завея, нібы звар'яцела...
Ці белага свету канчына ідзе?
Нічога не бачна — акно запацела,
Нічога не чутна — так вецер гудзе.

Зіма аніяк адступіцца не хоча,
Бо ўлады не хоча сваёй аддаваць.
Галосіць, і вые, і дзіка рагоча,
У гурбы імкнецца зямлю пахаваць.

І толькі пад раніцу шал яе знікне,
Злятуць разам з ветрам трывожныя сны.
Нясмелая кропля танюсенька дзынкне,
Як першая вестка красуні-вясны.

* * *

За пасвятлелым маім акном
З'явіўся нязвыклы гук.
Стукае роўна, як метраном.
Слухаю: тук... тук... тук...

Думаў, снягір.
Ты што там дзяўбеш?
Нябачна нідзе снегіра.
Сонца прыгрэла.
Звініць капеж.
Хутка вясна.
Ура!

* * *

Бліскучы крышталёвы цвік
Вось-вось зляціць і разаб'еццa.
Гарэза-месяц сакавік
Праменна-весела смяецца.

Уранку лужына, як шклом,
Зацягнута лядком празрыстым,
А днём у вочы б'е святлом
І слепіць «зайчыкам» іскрыстым.

І зноў жыццё — як навіна.
І зноў цяплынь перамагае.
Ружоватварая вясна,
Штось абяцаючы, міргае.

* * *

Так доўга зіма не ішла,
Шарэла зямля непрыветная,
А вечарам загула
Мяцеліца несусветная.

Як тая ўдава, што вінОм
Салодзіць самоту гаротную,
Завея ўсю ноч пад акном
Спраўляе забаву грымотную.

Шалее — танцуе, пяе,
Праз галаву куляецца.
Адкуль столькі злосці ў яе,
Месяц прыціхлы здзіўляецца.

* * *

Беспрычынна не запыняліся,
Не жылі ані дня запаволена...
Мы спяшаліся...
І спазняліся,
Дзе спазняцца ніяк не дазволена.

Час змяніўся,
І мы змяніліся.
Маладзейшым парада такая:
Вы да маці яшчэ не спазніліся?
Дык бяжыце —
Яна вас чакае.

* * *

О, як лёгка ісці было
Цераз луг маладосці — зялёны,
О, якое дарыў святло
Твой пагляд анічым не замглёны.

Нібы ў казцы, сады цвілі
Некранутым, бялюткім цветам...
І здавалася: на зямлі
Вечна будзе бязвоблачнасць гэта...

* * *

Пэўна, кожны са мною пагодзіцца,
Пра жыццёвыя справы гаворачы:
У жыцці так на так не прыходзіцца,
І сцюдзёна бывае, і горача.

Пасля дождяшка распагодзіцца,
Пасля змроку начнога — світае.
Людзі сходзяцца, разыходзяцца,
Снег сплывае, і луг зацвітае.

Сёння хтосьці на свет народзіцца,
А кагосьці жалобна праводзяць.
У жыцці так на так не прыходзіцца:
Радасць з горам у пары ходзяць.

* * *

Жылі…
А што мы набылі?
Як жорстка памяць разбураем!
Забыліся, адкуль пайшлі,
Парвалі повязь з родным краем,
Дзе лебяда і крапіва
Ад смерці нас ўратавалі.
Без нас пакошана трава.
Бацькоў суседзі пахавалі.

* * *

Зорнае неба і поле жытнёвае,
Покліч драча, што схаваўся ў траве,
Месяц на вока хмурынку насоўвае,
Сонна-бяздумна ў бязмежжы плыве.

Твар закранула галінка дрыготкая,
Быццам пяшчотна рукой правяла...
Летняя ночка —
Такая кароткая...
Ты, як жыццё,
Прамільгнула,
Прайшла.

* * *

О, ночка зорная!
Прыветная якая!
Які прыгожы месяц маладый!
Каму патрэбны я?
Дзе, хто мяне чакае?
Іду без мэты,
Проста хоць куды.

Начныя цвыркуны заўзята славяць лета.
Прыціхла вёска ў непрацяглым сне.
Куды падзелася мая святая мэта?
Чаму так пуста на душы ў мяне?

На ўсходзе небакрай ружовіцца павольі,
Змарнелым зоркам хочацца заснуць.
Стаю паміж жытоў —
Адзін у чыстым полі.
Штось шэпчуць каласы,
Каб да жыцця вярнуць.

* * *

А моладзь сучасная наша — якая?
Хто на падмену старэйшым ідзе?
Чаго яна хоча?
На што наракае?
Ці ў горы-бядзе
Не падвядзе?

А моладзь сучасная —
Хто яна, што яна?
Аб чым яна думае, марыць аб чым?
Мы павучаем.
Слухае стоена.
«Вы гаварыце, а мы памаўчым».

Старасць у роздуме.
Старасць гадае.
Сумненні, як хвалі —
Прыліў і адліў.
Старасць!
Калі ты была маладая,
Прыпомні:
Ці вельмі цябе хто хваліў?

* * *

Перадыхнуць няма калі,
Бяжым... а часу не хапае.
І сонца хіліцца к зямлі,
І надвячорак наступае.

Нястрымна коціцца ручай,
Бягуць навыперадкі хвілі,
Як падганяюць нас:
Хутчэй
Рабіце, што недарабілі.

Не паспяваем, як на злосць,
І ноч работу абрывае.
Здзіўляемся: як маладосць
Так лёгка ўсюды паспявае?

* * *

Абдыму, пяшчотна пацалую,
Каб прагнаць з душы тваёй нуду,
За руку вазьму, нібы малую,
Сцежкаю за вёску павяду.

Жне траву старая Кастусіха,
Паглядзела — і не пазнае.
Як навокал урачыста-ціха!
Толькі пчолка каля ног снуе.

На лугах ужо стагі пасталі.
Бусел зранку ходзіць па расе.
Птушаняты з гнёзд павырасталі,
Правяраюць крылы пакрысе.

Тут майго маленства леты, зімы
Праляцелі, нібы ў лёгкім сне.
Прытуліся ж да маёй радзімы,
Ціха прытуліся да мяне.

**Чаканне**

Бываюць дні, што цяжка перажыць,
Калі нічога ў рукі не даецца,
Здаецца, цэлы свет з мяне смяецца,
І нудны дождж ад раніцы імжыць.

Нахабны, барабаніць у акно,
Мне пагражае ліхам і бядою,
І крыўды, перажытыя даўно,
З куткоў душы вылазяць чарадою.

Ды раптам — крокі!
Пазнаю: твае...
Хвіліна цягнецца бясконца.
Ты вуснамі гарачымі, як сонца,
Шчаку кранаеш мне,
І дождж перастае.

**У грыбах**

Грыбы збіраем у лясной глушы.
Між дрэў за намі вецярок блукае.
Ужо даўно напоўнены кашы,
А лес ніяк на волю не пускае.

Рудагаловыя баравікі
Глядзяць на нас прытоена з-пад лісця.
Няхай сядзяць.
Набралі ў дзве рукі.
Усё трывожней думаем пра выйсце.

Мы заблудзілі.
Дзень ужо сшарэў.
Пад ягаднік схаваліся чарніцы.
Жахлівы гуд прайшоў па кронах дрэў.
Цямнее.
Мусіць, будзе навальніца.

Гушчар святлее, робіцца радзей.
Да нас бяжыць выратавальна сцежка.
Хутчэй, хутчэй — на волю, да людзей!
На твары любай, як прамень —
Усмешка.

* * *

Ідзём з табой, узяўшыся за рукі,
Ці гром грыміць, ці салаўі пяюць.
Жыцця жывога колеры і гукі
Нам жыццятворнай сілы надаюць.

Жыццё віруе, вырабляе штукі,
Нібы вясной свавольная рака.
Ідзём з табой, узяўшыся за рукі,
І грэе сэрца мне твая рука.

**Па-над Дзвіною**
*Песня*

Па-над Дзвіною бэз зацвітае,
О, як духмяна пахне вясною!
Хлапец дзяўчыну ціха пытае:
«А ці ты пойдзеш, люба, са мною?»

Цкаўны месяц глядзіць з-за хмары
Смяюцца зоркі з-за аблачыны.
Блукае ўсмешка па ясным твары,
Па сарамлівых вуснах дзяўчыны.

Заціхлі ў ночы зямныя гукі,
Схаваўся вецер па-за вярбою.
Дзяўчыне хлопец цалуе рукі,
Дзяўчына шэпча: «Пайду з табою...

**Добрай раніцы!**

Добрай раніцы, дарагая!
Свеціць сонца, як твой пагляд.
Як цудоўна цябе аблягае
Паркалёвы доччын халат.

Рупна раніца маладая
Запаліла ўсе шыбы агнём.
Пам журбоціцца не выпадае
Гэткім шматабяцаючым дпём.

Ціха-мірна вакол пасля ночы.
Прачынаецца поле і лес,
Толькі ў небе спрасоння грукоча
Матарова-ракетны прагрэс.

* * *

Над рэчкай вецер шоргае ў трысці,
Вада сярпок маладзіка гартуе.
Хтось сарамліва просіцца: «Пусці…»
Хтось: «Не пушчу!»—няўпэўнена жартуе.

І зноў маўчанне.
Толькі драч стары:
«Пара! Пара!» — няўцямна заклікае.
Паснулі ўсе ўжо — людзі і звяры.
А ночка непрацяглая такая.

Світае.
Крочаць сцежкай лугавой.
Ля сцежкі елка — цацка выразная.
Туман паўзе клубамі над травой,
Іх вэлюмам празрыстым ахінае.

* * *

Ледзь бачнай іскрынкай агонь
Ля гаю праз ночку палае.
І трапяткая далонь,
Нібы істота малая,
Цягнецца да яго,
Цяпельца ўтрымаць імкнецца,
Каб далучыць да свайго,
Як я{ар палымянага, сэрца.
Утульна і цёпла двоім.
Агеньчык-гарэза страляе...
Як шчасна і радасна ім!
Жыццё іх пяшчотна люляе,
Схаваўшы пакуль што свае
Начныя прывіды і страхі...
Паснулі і людзі, і птахі...

«Салодкія вусны твае...»

* * *

Зноў бесклапотна я жартую
І прагну позіркаў тваіх.
Святкуем восень залатую
З табой, каханая, ўдваіх.

Бязважка кружацца галовы
Ад вераснёвай пекнаты!
Шапчу табе нанова словы,
Што чуць павінна толькі ты...

* * *

Помніш, наваколле ціха спала,
Спалі перапёлкі і драчы...
Нам кароткай ночы не хапала,
Пацалункаў хмельны мёд п'ючы.

Вёска спала.
Поўня даставала
Вуснамі паказытаць сасну.
Ты пяшчоты мне не шкадавала,
Аддавала мне сваю вясну.

А калі запела наваколле
І туман асеў каля шашы,
Мы пайшлі сцяжынкаю праз поле
З радаснай трывогай у душы.

* * *

«За што цябе маці журыла,
Пускаць не хацела на гулі?»
«За тое, што я гаварыла
З хлопцам, а цёткі пачулі».

«За што цябе маці ўшчувала,
Дадому паклікала рана?» —
«За тое, што я цалавала
Хлопца каля паркана».

«За што цябе не пусціла
Маці на пагулянку?» —
«За тое, што я прахадзіла
З хлопцам да самага ранку».

«За што табе ўчора купіла
Сукенку прыгожую маці?» —
«За тое, што я палюбіла,
Нядоўга гасціць мне у хаце».

* * *

Слабее горыч незваротных страт,
У іх не вінавачу анікога.
Прыпомню дым па-над чародкай хат,
Пачую шум праспекта гарадскога.

І ў тлумнай плыні, у жывой рацэ
Убачу дзве шчаслівыя істоты,
Што крочаць побач, і рука ў руцэ,
І вочы ў вочы, поўныя пяшчоты.

Употай пазайздрошчу тым дваім,
Мые маладосць здалёку адгукнецца.
«Жывіце светла!» — пажадаю ім,
А сэрца ад трывогі здрыганецца.

* * *

Ім па начах пакуль што сняцца
Адны вясёлкавыя сны.
Яшчэ ім толькі па семнаццаць,
І сёння ўпершыню яны
Без аднакласнікаў са школы
Ідуць па сонечным баку.
«Пан ці прапаў!»
Ён без дазволу
Спрабуе ўзяць яе руку.
І дотык раптам, нібы токам,
Усю яго істоту б'е.
Яна ж маўчыць,
І з кожным крокам
Святлее юны твар яе.

* * *

Маладым няма чаго таіцца,
Ад людзей няма чаго хаваць.
Маладосць нічога не баіцца —
Люба ёй спяваць і працаваць.

Люба ёй нягодам не здавацца,
Люба сілы адчуваць запас,
Ох, як люба любым прызнавацца
У любові самы першы раз.

**Лячэнне голадам**

Знаёмы галадоўку аб'яўляе
Пры поўным халадзільніку яды.
Тры дні ён нават хлеба не купляе,
Жыве з адной толькі сырой вады.

Ён вычытаў нра метад самы новы,
Як найдаўжэй застацца маладым.
І правярае —
Як вяпрук, здаровы,
З барцоўскім каркам,
Сонечна-рудым.

Тры дні праходзіць —
Гэткаму замала,
Каб хоць на кілаграм памаладзець.
Зноў жлыкча піва і ўплятае сала
І музыку ўключае:
«Пабалдзець».

І валіцца на свой ляжак утульны.
«Патрэбна сэрцу адпачынак даць».
Лічу абразай я такія гульні,
Бо ведаю,
Што значыць галадаць.

**Споведзь «дзелавога»**

Я -
          дзелавы.
Гавару як на споведзі.
Шныра і чэсна
                    як на духу.
Грошы ў панчосе.
Сабака на повязі.
Цешча
          ў асобным сядзіць катуху.

Дзе я працую?
Ды справа не ў гэтым.
Загадчык.
Намеснік.
Дыспетчар.
Прараб.
Магу быць
Рабочым,
Вучоным,
Паэтам.
Я -
          гаспадар,
Хоць душою і раб.

Я —
          дзелавы,
І ўсё гэтым сказана.
Жыву не для некага,
А для сябе.
Шчыра лічу,
Што не абавязаны
У вашай
Удзельнічаць барацьбе.
я -
          дзелавы.
Ёсць жонка і дзеці.
Сяброўку ці маю?
А хоць бы і дзве...
Я -

дзелавы,
І пакуль што на свеце
Племя маё
Негаротца жыве.

**Бяда**

Жыццё чалавека зламала,
Яго напаткала няшчасце,
І сіла, якая трымала,
Пусціла, дала яму ўпасці.

Ён сам нарабіў сабе шкоды,
Хоць іншыя меў намеры.
Ён праўду змяніў на выгоду,
Ён здрадзіў сябрам з-за кар'еры.

Было не каханне прычынай,
Калі выбіраў сабе жонку —
За ёй атрымаў машыну
І пульхную кніжку-скарбонку.

Для шчасця і гэтага мала,
Сквапнасць душу з'ядае.
Яго не жыццё зламала.
Ён сам па сабе прападае.

* * *

Чырвоная кніга з гадамі таўсцее,
Скора запішам туды вераб'я.
І не знайсці аніяк ліхадзея,
Тэорыя ёсць у любога свая.

Кажа вучоны: «Дарэмныя страхі,
Я па тэорыі вам дакажу:
Не выміраюць ні рэкі, ні птахі
Ні ад хімікатаў,
Ні ад дрэнажу...»

Тэорый цудоўных напісаны тоны.
Вучоны ў задуме над новай сядзіць
«Ці хочаце рыбкі, таварыш вучоны?»
«Я рыбкі не ем, бо мазутам смярдзіць».

**Кароль**

Ты падыходзіш — свежы і вясёлы,
На твары ўсмешка і загар густы.
Кароль мясцовы.
Для мяне ты голы.
І гэта добра разумееш ты.
Але смяешся.

Мусіць, спадзяешся,
Што я пры людзях сціпла прамаўчу.
Нашто самападману паддаешся?
Ты чуеш?
— Голы!
Гэта я крычу.

**У зыход на гару**

Я — на гару, а чорт — за нагу,
Цягне назад з гары.
Кажа сурова: «Займі чаргу,
Ахалані, пакуры».

Я паслухмяна займаю чаргу,
Дысцыплінавана куру.
І зноў — на гару, а чорт — за нагу:
«Назад, зачыняем гару».

Пытаю: «А заўтра я трапіць змагу?» —
«Трапіць, хто прыйдзе ў пару».
Лезу назаўтра, а чорт — за нагу.
«Турысты глядзяць гару».

Тады я ціхенька гавару:
«Вазьмі на смалу тры рублі...»
І чорт прапускае мяне на гару,
Пяшчотна мармыча: «Валі...»

* * *

Абмежаваныя у часе,
Жывём, спяшаемся, бяжым.
Хвіліны вольнай у запасе
Не пакідае нам рэжым.

Хутчэй, хутчэй...
Турботы, праца,
І цень даўжэе на траве.
Аж пачынаюць завіхрацца
І дні, і думкі ў галаве.

А мэта — вось за паваротам...
І ты, прыспешваючы крок,
Заліты ўвесь салёным потам,
Бяжыш: «Рывок! Яшчэ рывок!»

**З М Е С Т**

«За гадамі, нібы за гарамі...»
«Пішу, як дома гаварылі...»
Дзень
Два санеты
Дабро і зло
«Партызан вячэру пахваліў...»
«Умытая крывёю і слязьмі...»
«Я сэрцам рады: час цяпер не той...»
Усё адтуль
Успамін
«Пасля вайны на першым годзе...»
«Маці ўранку ў кубак налівала...»
«Я спаў у начлезе — руку пад шчаку...»
Праснак
«Маленства сцежак не забыць ніяк...»
«Я не па кніжках жыццё вывучаў...»
«Інтэлігенты ў першым пакаленні...»
Адкрытыя ўрокі
«Я картовы касцюм адпрасую...»
«Ёсць на свеце маленькая вёска...»
Аднакласнік
З дзяцінства
Пяцідзесятыя гады
Баракі
Былы сябра
Праз гады
Браты
Курт Мюлер
«У вёску едуць немцы!..»
У дровы (апавяданне)
«Канешне, не ўсяго хапае...»
«У гадзіну познюю, калі...»
«Яны навіны моўчкі сустракаюць...»
«Як лёгка ставіць звышзадачы!..»
Жыццё
«Чым старэй, тым бліжэй да зямлі...»
«Ручай былых надзей мялее...»
Самы кароткі цень
Працаўнікі зямлі
«Прайду пехатой, як калісьці...»
Вёска Дварэц
Аднавясковец
«Вясковы ранак...»

«Я сам сабе не падабаюся…»
«Сястра мне піша…»
«Яшчэ раз пытаюся…»
«Сядай, сястрыца, пагаворым…»
«Там, за лясамі — поле…»
Цёця Стэпка
Вёска — мая калыска
«Пусцеюць нівы спакваля…»
«Разгарадзіліся двары…»
«Прайшла гарачая пара…»
«Толькі два тыдні ў горадзе…»
«Няма ўжо старой мяжы…»
Касьба
«Рэчку туман спавівае…»
«Зімовы дзень…»
«Я зноў — начлежнік выпадковы…»
Янка Купала ў Ляўках
Маці старшыні
«Гарачай бульбачкі зварыла…»
Гаспадары
Проза жыцця
«Іду, з вяскоўцамі вітаюся…»
«Тут, кажуць, вёсачка была…»
«Дождж са снегам…»
Цыганка і жарабя
«Жыта зжалі. Апусцела ніва…»
Нашчадак
Пенсіянерка
«Дубнякі, Каралёва, Варонічы…»
Пасля выпускнога
Зубрэвічы
«Сёння хаваюць бабулю…»
Восень
«Сур'ёзная праблема — не да смеху…»
Люблю зямлю
Наша хата
Маці
«На захад сонца…»
«Завіхацца…»
«Яны прайшлі…»
«Перапляліся у часе падзеі…»
«Змяркаецца…»
«Бягу наўпрост…»
«Круцяцца планеты, нібы жорны…»
«Не ведаю, колькі яшчэ мне ісці…»

Маладая маці
Мара
Дзяўчынка з брацікам гуляе
«Прачынаюся, як ад штуршка…»
«Было…»
«Свет вялікі, шматгалосы…»
«Па-над градамі, па-над садам…»
«Руплівы ткач но запыняе кроснаў…»
«Мы любім праўду, ды не ўсю гаворым…»
«Няўжо забылі, што перажылі…»
« І калі гэта ўсё пачалося?..»
«Калі ад шчырасці адвыклі?..»
«Ветлівы, сціплы, ціхмяны…»
«Прыцішыўся, як па каго палюе…»
Калі апануе бяда
«Нічога новага…»
«Мой лёс…»
«Губляюся ў думках…»
«Вучыла мама…»
Надзённае
«Ах, хітруны-гаваруны…»
«Разгубіліся штосьці паэты…»
Бюракрат
«Давай, брат, дзённік…»
Яны
«Цяжарам крыху прыгорблены…»
«Спакваля мы звыкаемся з думкай…»
«Набіваючы мазалі…»
«Пасля асенняй морасі і золі…»
Зацягнем песню!
«Скуголіць завея, нібы звар'яцела…»
«За пасвятлелым маім акном…»
«Бліскучы крышталёвы цвік…»
«Так доўга зіма не ішла…»
«Беспрычынна не запыняліся…»
«О, як лёгка ісці было…» 141
«Пэўна, кожны са мною пагодзіцца…»
«Жылі…»
«Зорнае неба і поле жытнёвае…»
«О, почка зорная!..»
«А моладзь сучасная наша — якая?..»
«Перадыхнуць няма калі…»
«Абдыму, пяшчотна пацалую…»
Чаканне
У грыбах

«Ідзём з табой, узяўшыся за рукі...»
Па-над Дзвіною (песня)
Добрай раніцы!
«Над рэчкай вецер шоргае ў трысцці...»
«Ледзь бачнай іскрынкай агонь...»
«Зноў бесклапотна я жартую...»
«Помніш, наваколле ціха спала...»
«За што цябе маці журыла...»
«Слабее горыч незваротных страт...»
«Ім па начах пакуль што сняцца...»
«Маладым няма чаго таіцца...»
Лячэнне голадам
Споведзь «дзелавога»
Бяда
«Чырвоная кніга з гадамі таўсцее...»
Кароль
Узыход на гару
«Абмежаваныя у часе...»

**Папковіч У.**

Самы кароткі цень: Кніга вершаў,— Мн.: Маст. літ., 1988,— 174 с.

ISBN 5-340-00059-1

Кнігу склалі вершы — роздумы пра наш час. Прасякнутыя журбой успамінаў.пра ваеннае дзяцінства, яны ззяюць свежымі фарбамі і адлюстроўваюць сынаву любоў да роднай зямлі, да жыцця.